# Шляхі калектывізацыі



№ 2

1932

# „Рабселькоры—камандзіры грамадзкай думкі“

(СТАЛІН)

Справа распаўсюджаньня і прасоўваньня ў гушчы рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ павінна быць шырока папулярызавана сярод апошніх. Часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ папулярызуе на сваіх старонках вопыт і практыку лепшых саўгасаў, МТС і калгасаў, дапамагае бедняку і серадняку-аднаасобніку хутчэй стаць на шлях калектыўнай формы апрацоўкі зямлі, часопісь вядзе няпрымірымую барацьбу з скажэньнем генэральнай лініі партыі ў пытаньнях перабудовы сельскай гаспадаркі на сацыялістычны шлях.

Для таго, каб быць сьвядомым і актыўным змагаром за чыстату марксыцка-ленінскае тэорыі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, неабходна штодзенна мець пад рукамі друкаваныя органы партыі і Савецкай улады. Часопісь „Шляхі Калектывізацыі“, якая зьяўляецца адзінай сельска-гаспадарчай часопісьсю ў БССР, якая шырока асьвятляе на сваіх старонках лепшы вопыт і практыку перадавых калгасаў і МТС, павінна зьявіцца настольнай кнігай кожнага актывіста на вёсцы.

Выходзячы з гэтых агромнейшых важнасьцяй задач, рэдакцыя часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ паставіла шэраг практычных мерапрыемстваў перад сваімі селькорамі. 4 студзеня г. г. былі разасланы лісты да ўсіх нашых селькораў, дзе рэдакцыя зварачала ўвагу на слабую работу селькораў па распаўсюджваньні часопісі і праяўленьне недастатковай увагі з боку некаторых мясцовых устаноў і арганізацый.

Рэдакцыяй часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ разасланы таксама лісты райкалгассаюзам, райана, саўгасам трэсту „Сьвінавод“, райпоштам, але да гэтага часу яшчэ няма належных вынікаў па распаўсюджаньню часопісі. Зьвесткі, якія маюцца ў рэдакцыі, гаворадь аб тым, што асабліва ў гэтай справе ганебна адстаюць райкалгассаюзы і РайАна, а саўгасы трэсту „Сьвінавод“ нават ня маюць на ўвазе выпіску часопісі за сродкі культфонду.

На сёнешні дзень мы маем вельмі нязначныя вынікі па прасоўваньню часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ ў гушчы працуючых на сацыялістычным сэктары і беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў. Рабселькоры павінны апраўдаць сваё апрадзяленьне, данае т. Сталіным, што „рабселькоры - камандзіры грамадзкай думкі“. На ажыцьцяўленьне Сталінскага лёзунгу некаторыя нашы селькоры ўжо ўключыліся і маюць ужо некаторыя вынікі ў сваёй працы.

Актыўны селькор **А. Савіцкі** (Рагачоўшчына) улічыў усю важнасьць пытаньня распаўсюджаньня часопісі і практычна прарабіў да 1 студзеня 1932 г. наступнае: калі да ўказанага тэрміну па раёну ня было ні аднаго экз. часопісі, зараз выпісваюць 10 экз. і ім узяты абавязак давесьці да 50 экз., для гэтага т. Савіцкім завербаваны новыя зборшчыкі падпіскі на часопісь — настаўнікі. Для больш лепшага і пасьпяховага правядзеньня работы па распаўсюджваньню часопісі селькор А. Савіцкі выклікае на сацспаборніцтва нашых селькораў: Г. Шумілава (Шклоў), Лэгошка (Полацк), Гура (Ветрына), Кулакова і Кл мовіча (Рагачоў).

Таксама вялікую працу, праробленую лістаносцам Руднянскага аддз., т. Букатага М., які распаўсюдзіў друку на суму 265 руб. на 1932 г., трэба ўзяць у прыклад усім лістаносцам.

Выклік і вопыт селькора **А. Савіцкага** і актыўную працу лістаносца **Букатага М.** ператварыць у практычнае ажыцьцяўленьне ўсімі нашымі селькорамі.

**Р. К.**

---

## У кожнай хаце-чытальні, у кожным саўгасе, калгасе і МТС, у кожнай школе павінна быць часопісь

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ
# Калектывізацыі

2
1932
СТУДЗЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



# ДЗЕСЯЦЬ ГОД САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА НАСТУПЛЕНЬНЯ ПА ЗАВЕТАХ ЛЕНІНА

Восем год назад памёр Ленін. Амаль дзесяць год, як ён выступаў у апошні раз з палітычнай справаздачай ЦК на XI зьездзе і заявіў аб спыненьні адступленьня, пачатага партыяй з пераходам да НЭП'у.

Такім чынам, спаўняецца **дзесяць год з пачатку нашага сацыялістычнага наступленьня на базе НЭП'у.**

К XI зьезду мы толькі пачалі выходзіць з разбуранага становішча краіны. Краіна перажыла цяжкі голад 1921 году. Сельская гаспадарка рабіла толькі першыя крокі пад'ёму. Ледзь пачынала станавіцца на ногі лёгкая прамысловасьць. Мэталюргія амаль бязьдзейнічала.

Ворагі ўнутры і па-за краінай былі ўпэўнены, што калі Савецкую ўладу не ўдалося зламаць шляхам грамадзянскай вайны, то яна ня зможа ўстаяць пад напорам новай буржуазіі, якая будзе расьці на глебе НЭП'у.

У гэты момант Ленін даў партыі сыгнал да пачатку сацыялістычнага наступленьня.

„Самкнуцца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць рухацца наперад нязьмерна бясконца павольней, чым мы марылі, але затое так, што сапраўды будзе рухацца ўся маса з намі. Тады паскораньне гэтага руху наступіць такое, аб якім мы зараз і марыць ня можам“.



Працоўныя чатыры вярсты пяшком нясуць на руках цела Леніна

Яно наступіла, гэта паскораньне. Каля чвэрці даваеннай прадукцыі давала наша прамысловасьць да XI га зьезду. А зараз, праз 10 год, мы набліжаемся да ўтраеньня даваеннай прадукцыі. Дзе і калі бачыў сьвет такія тэмпы?

Дробная, распыленая індывідуальная сельская гаспадарка вызначала твар вёскі і ў значнай ступені твар усёй краіны. А зараз калгасьнік стаў цэнтральнай фігурай вёскі і асноўнай апорай Савецкай улады на вёсцы. І далёка з-заду засталася лічба ў 100 тысяч трактароў, з якой Ленін зьвязваў пераход сялянства да „камуніі“.

Ленін гаварыў на XI зьездзе, што нас чакае наперадзе апошні і рашучы бой „не з міжнародным капіталізмам—там яшчэ шмат будзе апошніх і рашучых баёў—не, а вось з рускім капіталізмам, які расьце з дробнай сялян-



**Вынас цела Ўладзімера Ільліча Леніна з Горак.**

скай гаспадаркі, з тым, які ім падтрымоўваецца. Вось тут прадстаіць у бліжэйшай будучыне бой, тэрмін якога нельга дакладна вызначыць“.

Гэты бой наступіў ужо пасьля сьмерці Леніна, калі па прапанове т. Сталіна партыя **перайшла ад лёзунгу агранічэньня і выцясьненьня кулацтва да лёзунгу яго ліквідацыі.**

Барацьба сацыялістычных і капіталістычных элемэнтаў унутры краіны набліжаецца да канца. Пастаўленае Леніным пытаньне „хто каго“ ўжо вырашана партыяй пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным. Поўная перамога сацыялізму забясьпечана.

Вораг пытаўся змагацца з ленінскай партыяй ня толькі ўне, але і знутры, пры дапамозе сваёй трацкісцкай і праваапартуністычнай агентуры.

Пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК партыя разграміла трацкізм, з якім шмат гадоў змагаўся Ленін і тады, калі трацкізм зьяўляўся фракцыяй унутры меншавізму, і калі, парваўшы арганізацыйна з меншавікамі і зьвергнуўшы свае антыбальшавіцкія погляды, ён стаў на час фракцыяй унутры бальшавіцкай партыі, працягваючы, аднак, увесь час цягнуць у бок меншавікоў. Ленін на X зьезьдзе правёў пастанову аб забароне фракцый, накіраваную супроць трацкістаў і анарха-сындыкалісцкага ўхілу рабочай апазыцыі, узначаленага Шляпнікавым, якога Ленін за парушэньне гэтай пастановы прапанаваў выключыць з партыі.

Пасьля сьмерці Леніна, працягваючы барацьбу, якая ім вялася, партыя выкінула трацкістаў, якія вярнуліся на сваю меншавіцкую рвоту. Усьлед за трацкізмам партыя разграміла правы апартунізм. Перамагла і перамагае генэральная лінія ленінскай партыі. Толькі на аснове гэтай лініі, толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы з апартунізмам на два франты, з якім Ленін непрымірыма ваяваў усё сваё жыцьцё, дасягнуты нябачныя посьпехі гэтых дзесяці год сацыялістычнага наступленьня. Чым больш і вачавідней гэтыя посьпехі, чым бліжэй падыходзім мы да пабудовы поўнага сацыялістычнага грамадзтва, тым вышэй аўтарытэт нашай партыі, яе генэральнай лініі і кіраўніцтва, тым мацней адзінства і зьлітаванасьць партыйных ленінскіх радоў, тым цяжэй становіцца выступаць супроць партыі адкрыта.

Іменна таму нашы ворагі, у тым ліку апартуністы, пралязаючыя ў партыю, так часта прыбягаюць да маскіроўкі і кантрабанднага працягваньня сваіх антыпартыйных і антыпралетарскіх ідэй, прыкрываючыся да часу, да спрыяючага моманту, якога яны чакаюць, алілуйскай згодай з генэральнай лініяй партыі.

Мы ўступілі ў пэрыяд сацыялізму. Перад партыяй ва ўсёй шырыні стаяць задачы пабудовы поўнага сацыялістычнага грамадзтва. На 36 проц. павінна вырасьці сацыялістычная прамысловасьць у цяперашнім завяршаючым годзе пяцігодкі. 21 мільярд будзе ўкладзен у будаўніцтва прамысловасьці, транспарту і сельскай гаспадаркі. Робяцца рашучыя крокі да забесьпячэньня эканамічнай незалежнасьці нашай краіны ў адносіне тэхнікі. **У 1932-33 г. будзе ў асноўным закончана** суцэльная калектывізацыя вёскі на аснове арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, падняцьця іх як сацыялістычных прадпрыемстваў на больш высокую ступень. Ва ўвесь рост становіцца задача сацыялістычнай пераробкі калгасьніка.

Мабілізацыя шырачэзных пралетарскіх і працоўных мас для выкананьня праграмы апошняга, завяршаючага, году пяцігодкі—на аснове ўказаньняў т. Сталіна—вось лёзунг, з якім партыя ідзе сёньня к масам.

Але вораг яшчэ не дабіт. Рэшткі кулацтва працягваюць аказваць шалёнае супраціўленьне. Яны пытаюцца ўзьдзейнічаць на масы аднаасобнікаў—серадняков і беднякоў, якія ў некаторых раёнах краіны яшчэ складаюць большасьць вёскі. Асобныя кулацкія элемэнты пранікаюць нават у калгасы, імкнучыся разлажыць знутры, выкарыстоўваючы дробна-буржуазныя хістаньні адсталых груп калгасьнікаў.

Прыклад хлебазагатовак—адной з важнейшых рашаючых гаспадарчых кампаній,—нагляднa ўскрывае мэханіку супраціўленьня клясавага ворага, які аказвае ўплыў нават на асобныя праслойкі партыі. Ці ня прышлося выключаць з партыі цэлы рад сакратароў райкомаў Украіны, Паўночнага Каўказу?

Апартунізм—агентура клясавага ворага ў нашых радох—яшчэ не дабіты. Разгромлены ў адкрытым ідэйным баю, пазьбягаючы часьцей усяго проста выступаць супроць лініі партыі, правы апартунізм




**Маўзалей Леніна.**

**„Са сьцягам Леніна перамаглі мы ў бойках за Кастрычніцкую рэвалюцыю. Са сьцягам Леніна дабіліся мы рашаючых посьпехаў у барацьбе за перамогу сацыялістычнага будаўніцтва. З гэтым-жа сьцягам пераможам у пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.**

**Няхай жыве ленінізм!“**

**(СТАЛІН).**



---

імкнецца пралезьці ў шчэлкі, ён змагаецца супроць на шых плянаў і тэмпаў, супроць перабудовы работы нашых арганізацый, супроць рэалізацыі паказаньняў тав. Сталіна аб рабоце па-новаму. „Левы“ апартунізм працягвае дапамагаць правым, выдумляючы дутыя пляны, ганяючыся за дутымі лічбамі калектывізацыі, падмяняючы масавую работу ў вёсцы адміністраваньнем, чапляючыся за ўраўнілаўку і абязьлічку.

Вялізарнае пашырэньне маштабаў сацыялістычнага будаўніцтва, у якое ўцягваюцца непасрэдна новыя мільёны і дзесяткі мільёнаў, падняцьце гэтага будаўніцтва на больш высокую ступень, зьвязанае з аўладаньнем самай перадавой сучаснай тэхнікай, цэлым радам новых вытворчасьцяй, зьвязанае з сацыялістычнай перапрацоўкай калгасных мас, ужываньне нашымі ворагамі больш складаных і тонкіх прыёмаў барацьбы (захаванае шкодніцтва, ідэйная кантрабанда і г. д.) з усёй вастрынёй ставяць пытаньне аб разгортваньні работы па **марксыцка-ленінскаму выхаваньню партыйных мас, аб падняцьці ідэйна-палітычнага ўзроўню і аб узмацненьні клясавай пільнасьці нашых партыйных кадраў.**

Шырэй уцягнуць масы, перш усяго масы новых членаў партыі, к асноўным ідэям ленінізму, падняць якасьць работы марксыцка-ленінскага выхаваньня, пасіліць работу партыйнага актыву па вывучэньню твораў Леніна—так стаіць задача.

Агенты контррэвалюцыйнага трацкізму, які ператварыўся ў авангард контррэвалюцыйнай буржуазіі, нездарма імкнуцца ўзьвесьці паклёп на Леніна, найвялікшага правадыра, тэорэтыка, арганізатара нашай партыі і Камінтэрну. Яны ведаюць, што ідэямі Леніна жыве, расьце, мацнее і перамагае бальшавіцкая партыя—авангард міжнароднай рэвалюцыі—і ўвесь сусьветны камуністычны рух.

Калі ў капіталістычных краінах пануе крызіс, калі ў пошуках выхаду з крызісу паны капіталісты адбіраюць у рабочых і сялянскіх мас апошні кавалак хлеба, рыхтуюць новыя зьнішчальныя войны, калі адзіны шлях выхаду з крызісу для мас—**ленінскі рэвалюцыйны шлях**, якім ідзе Камінтэрн, трацкісцкія кантрабандысты нездарма імкнуцца паменшыць міжнародную ролю бальшавізму, паменшыць ролю Леніна, як правадыра рабочай клясы ўсяго сьвету. Яны робяць справу буржуазіі і сацыял-фашызму.

Калі ў Савецкай краіне, якая ідзе па шляху Леніна, пабудаван фундамант сацыялістычнай эканомікі і будуецца поўнае сацыялістычнае грамадзтва, трацкісцкія кантрабандысты нездарма падкопваюцца пад ленінскую тэорыю пабудовы сацыялізму ў нашай краіне, паклёпніцкі скажаючы погляды Леніна і бальшавікоў на перарастаньне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную ў 1905 годзе і 1917 г., паклёпніцкі скажаючы сацыялістычны характар Кастрычніцкай рэвалюцыі. **Пад кіраўніцтвам т. Сталіна партыя выкрыла і будзе выкрываць далей трацкісцкіх кантрабандыстаў, якія ўзводзяць паклёп на Леніна, на партыю і яе кіраўніцтва.**

**Шырэй ленінскія веды ў масы,** асабліва ў масы маладых членаў партыі і камсамолу, тых, хто ня ведае дарэволюцыйнай падпольнай барацьбы бальшавізму, ня прымаў удзелу ў грамадзянскай вайне, у барацьбе партыі з трацкізмам і бухарынскай апазыцыяй. **Вышэй ленінскую падрыхтоўку, вышэй ідэйна-палітычны ўзровень партыйнага актыву—такі лёзунг сёньняшняга дню.**

Дзесяць год сацыялістычнага наступленьня па заветах Леніна прынесьлі партыі найвялікшыя перамогі сусьветна-гістарычнага значэньня. У гэтым годзе, наперакор усім патугам унутраных, унешніх ворагаў і іх апартуністычных агентаў, будзе закончана першая сацыялістычная пяцігодка.

Пралетары Савецкага саюзу, на чале з ленінскай партыяй, па заветах Леніна ідуць на чале міжнароднай сацыялістычнай рэвалюцыі. СССР ужо стаў непарушным аплотам гэтай рэвалюцыі. Мы поўнасьцю забясьпечылі перамогу сацыялізму ўнутры краіны пад сьцягам Леніна і ленінізма.

Ленінізм пераможа ва ўсім сьвеце!

*(З перадавой „Праўды“).*

# АБ ПРАВЯДЗЕНЬНІ ВЕСНАВОЙ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ КАМПАНІІ 1932 ГОДУ

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

1931 год зьявіўся годам завяршэньня пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканомікі ў Савецкім Саюзе. Посьпехі ў галіне індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, прывялі да сацыяльна-эканамічных зрухаў у савецкай краіне.

У выніку росту калектывізацыі калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства, калгасы сталі асноўнымі вытворцамі ня толькі збожжа, але і важнейшых відаў с.-г. сырцу.

Пытаньне „хто каго" вырашана на карысьць сацыялізму ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы. Такім чынам, перамога сацыялізму ў СССР канчаткова забясьпечана. Барацьба за сацыялістычнае будаўніцтва зьвязана з далейшым рашучым сацыялістычным наступленьнем на ўсім фронце, з далейшым узмацненьнем клясавых пазыцый пралетарыяту. Таму аднэй з асноўных палітычных задач для ўсіх арганізацый зьяўляецца задача мабілізацыі пралетарскай пільнасьці на фронце клясавай барацьбы, маючы на ўвазе, што клясавы вораг—кулак яшчэ канчаткова не дабіт і ён будзе ў розных формах праяўляць клясавае супраціўленьне сацыялістычнаму наступленьню.

БССР у 1931 годзе дасягнула буйных посьпехаў у галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі: больш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднана ў калгасах, пасеўная плошча сацыялістычнага сэктару за 1931 год патроілася, пасеўная плошча пад тэхнічнымі культурамі павялічылася са 153.000 гэкт. у 1930 годзе да 271.000 гэкт. у 1931 годзе; арганізавана 27 новых машына-трактарных станцый з колькасьцю 1.911 трактараў супроць 722 трактараў, якія меліся ў 1930 годзе.

Гэтыя вялізарныя посьпехі ў справе будаўніцтва сацыялізму дасягнуты на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, у барацьбе з кулацтвам і яго агентурай унутры партыі—правымі і „левымі" апартуністамі—і з прымірэнцтвам да іх.

Веснавая с.-г. кампанія 1932 году набывае вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні праграмы чацьвертага—заключнага году пяцігодкі. Цэнтральнымі задачамі гэтай кампаніі павінны зьявіцца: арганізацыйна гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў; арганізацыя працы ў калгасах на аснове ажыцьцяўленьня сапраўднай зьдзельшчыны, пастаноўка справы ўліку, ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі, барацьба за павышэньне якасных паказальнікаў у сельскай гападарцы і асабліва ў яе сацыялістычным сэктары, укараненьне агратэхнікі, ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў тав. Сталіна ў саўгасах, калгасах і МТС, падрыхтоўка кадраў, поўнае выкананьне пасеўных плянаў. У веснавую с.-г. кампанію гэтага году неабходна дабіцца рашучага пералому па спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР у напрамку разьвіцьця тэхнічных культур (лён, каноплі) і жывёлагадоўлі. „1931—32 гады павінны быць гадамі тякога-ж пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гады ў справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі" (з адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК Саюзу). Усе гэтыя задачы зьяўляюцца вузлавымі і рашаючымі ў правядзеньні пасеўнай кампаніі 1932 году.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:

### I. У галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў

1. Абавязаць усе партыйныя і савецкія арганізацыі забясьпечыць правядзеньне сапраўднай зьдзельшчыны ў калгасах, павышэньне працоўнай дысцыпліны і прадукцыйнасьці працы, правільную расстаноўку рабочай сілы ва ўсіх галінах работы, ліквідацыю абязьлічкі пры скарыстаньні цягавай сілы і с.-г. машын і доглядзе жывёлы, укараненьне элемэнтаў гаспадарчага разрахунку ва ўсіх калгасах.

2. Павесьці барацьбу з праяўленьнямі буржуазна-кулацкіх і спажывецкіх тэндэнцый у саўгасах і калгасах.

3. Для больш пасьпяховага правядзеньня працы па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў Народнаму Камісарыяту Земляробства, Калгасцэнтру, Трактарацэнтру, РК КП(б)Б і раённым выканаўчым камітэтам забясьпечыць шырокае разгортваньне работы па падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі, брыгадзіраў (насеннаводаў, трактарыстаў, жывёлаводаў, сьвінаводаў, вэтсанітараў і г. д.).

Даручыць аддзелу кадраў ЦК, НКЗ, Калгасцэнтру, Трактарацэнтру ў дэкадны тэрмін унесьці на разгляд ЦК і СНК спэцыяльны плян падрыхтоўкі кадраў.

4. Абавязаць Народны Камісарыят Земляробства і Калгасцэнтр на працягу дэкады распрацаваць канкрэтную праграму мерапрыемстваў па далейшым арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў і ўнесьці на разгляд ЦК і СНК БССР.

5. Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны пабудаваць сваю работу з такім разьлікам, каб на аснове ажыцьцяўленьня арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, як цэнтральнай задачы ў калгасным будаўніцтве, завяршыць у асноўным суцэльную калектывізацыю БССР у 1932—33 г.г.

### II. У галіне ўмацаваньня ролі саўгасаў і МТС у рабоце па далейшай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі

6. ЦК КП(б)Б і СНК БССР абавязваюць усе партыйныя, савецкія, зямельныя і прафсаюзныя арганізацыі пры правядзеньні веснавой с.-г. кампаніі забясьпечыць з боку саўгасаў і МТС, як прадпрыемстваў пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу ў земляробстве, кіруючы пачатак ва ўсёй рабоце па сацыялістыч-

най рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, уздыме яе вытворчасьці.

7. Для далейшага ўзмацненьня тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі забясьпечыць: завоз трактароў для саўгасаў і МТС да пачатку веснавых работ у колькасьці 16.000 БР, арганізаваць да вясны новых 29 МТС, а разам з працуючымі 56 давесьці да канца году да 100 МТС.

8. Народнаму Камісарыяту Зямляробства, саўгастрэстам, Трактарацэнтру і прафсаюзным арганізацыям забясьпечыць у саўгасах і МТС перавод усіх работ на прагрэсыўна-прэміяльную зьдзельшчыну, ліквідацыю ўраўнілаўкі ў аплаце працы, правесьці арганізаваны і сваячасовы набор рабочай сілы, а таксама заключэньне дагавароў паміж саўгасамі і калгасамі аб узаемнай дапамозе ў пэрыяд самых напружаных палявых работ, поўную ліквідацыю абязьлічкі ў скарыстаньні с.-г. машын і цягавай сілы, павышэньне прадукцыйнасьці працы і правільную расстаноўку рабочай сілы ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі, поўны перавод усіх МТС і саўгасаў на гаспадарчы разрахунак.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Зямляробства, Трактарацэнтру і фракцыі ЦСПСБ у двухдэкадны тэрмін унесьці ў ЦК і СНК канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтым напрамку.

## III. Пасеўныя плошчы і забесьпячэньне насеньнем

9. Устанавіць плян пасеву яравога кліну ў 1932 г. ў 2.850.000 гэктараў, з іх: бульбы—700.000 гэкт., тэхкультур (лён, каноплі)—370.000 гэкт., збожжа—1.160.000 гэкт., кармовых траў—380.000 гэкт., караньплодаў—55.000 гэкт.

10. Для забесьпячэньня насеньнем скончыць стварэньне насенных фондаў у калгасах да 1 лютага, ссыпку насенных фондаў у новаарганізаваных калгасах, а таксама аграмаджаньне насеньня ўступіўшых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы праводзіць адначасова з арганізацыяй калгасаў і прыёмам у калгасы.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР папярэджваюць, што ў 1932 годзе пасеўныя плошчы калгасаў і саўгасаў, а таксама і аднаасобнікаў павінны быць забясьпечаны насеньнем цалкам з уласных рэсурсаў.

11. Народнаму Камісарыяту Зямляробства, Калгасцэнтру, райкомам КП(б)Б і раённым выканаўчым камітэтам збор страхавых фондаў у калгасах і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, у адпаведнасьці з пастановай СНК БССР аб іх утварэньні, скончыць да 1 лютага 1932 году ў разьмеры 15 проц. ад насенных фондаў.

12. Адзначаючы абсалютна нездавальняючы ход загатовак насеньня, што пагражае зрывам сяўбы ЦК КП(б)Б і СНК БССР абавязваюць РК КП(б)Б, райвыканкомы і Наркамснаб, Наркамзем і загатоўчыя арганізацыі ўжыць усе захады да сваячасовага выкананьня пляну загатовак насеньня, асабліва тэхнічных, кармовых і гародных культур, катэгарычна забараніўшы памол і скармліваньне вікі, сэрадэлы і бабовых культур на спажывецкія патрэбы, скарыстаўшы ўсе рэсурсы кармовых культур, лубіну і сэрадэлы ў першую чаргу для забесьпячэньня плошчы пад насеньнікамі.

13. Абавязаць Народны Камісарыят Зямляробства, саўгастрэсты і Калгасцэнтр пры праведзеньні веснавой с.-г. кампаніі 1932 году забясьпечыць пакіданьне плошчы пад насеньнікамі тэхнічных, кармовых, бабовых і гародных культур у такім разьмеры, якія-б задаволілі поўнасьцю патрэбы БССР у насеньні на 1933 год.

14. Адзначаючы ўзрастаючую ролю плодагародных гаспадарак у сувязі з ростам прамысловага насельніцтва і недаўлікам гэтай галіны гаспадаркі ў мінулым годзе, фарсаваць у 1932 годзе якасныя паказальнікі, вызначыўшы заданьне пад гародамі ў 70.000 гэкт., ягаднікамі—5.000 гэкт., новымі садамі—13.000 гэкт.

Народнаму Камісарыяту Зямляробства, Калгасцэнтру, райкомам, райвыканкомам, гарсаветам разам з прафсаюзнымі арганізацыямі прапрацаваць сыстэму мерапрыемстваў па прыцягненьні працы рабочых, служачых і неарганізаванага гарадзкога насельніцтва для поўнага выкананьня намечанай праграмы разьвіцьця садоўніцтва і гародніцтва, асабліва ў прыгараднай зоне.

## IV. У галіне разьвіцьця тэхнічных культур

15. Задача разьвіцьця техкультур—ільну і канапель—у 1932 годзе ставіцца, як адна з баявых задач партыі.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР падкрэсьліваюць вялікае значэньне ў справе забесьпячэньня ня толькі колькасных, але і якасных паказальнікаў па пасеве, вырошчваньні, уборцы, і апрацоўцы ільну і канапель, як вядучай палаводчай культуры рэспублікі. Аднак, у бягучым годзе рад раёнаў недаўлічыў значэньня гэтых культур, асабліва якасных паказальнікаў, і не забясьпечыў у адпаведнасьці з гэтым неабходнай масава-палітычнай работы.

Для ажыцьцяўленьня неабходных мерапрыемстваў у 1932 годзе прапанаваць:

а) Народнаму Камісарыяту Зямляробства, Калгасцэнтру, райкомам КП(б)Б і райвыканкомам арганізаваць і зараз-жа разгарнуць масавую работу сярод калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і аднаасобнікаў беднякоў і сераднякоў у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і далейшага догляду ільну і канапель, паставіўшы перад імі ва ўсю шырыню пытаньне якаснага паляпшэньня ільнаводзтва і канапляводзтва і далейшага яго пашырэньня па ўстаноўленых плянах;

б) зацьвердзіць пабудову ў 1932 годзе (дадаткова да заканчэньня будаўніцтвам) 45 ільназаводаў і 4-х пенькazаводаў з тым, каб заводзкай пераапрацоўкай ільну і канапель было ахоплена ў 1932 годзе 100 проц. у саўгасах і 50 проц. у калгасах у раёнах дзейнасьці заводаў;

в) абавязаць ільнаканапляводбудрайкомы КП(б)Б і райвыканкомы зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі будаўніцтва ільназаводаў шляхам адводу месца, загатоўкі будаўнічых матар'ялаў, з тым, каб да пачатку пераапрацоўкі прадукцыі ўсе аб'екты будаўніцтва былі гатовы;

г) улічваючы, што выраб ільнамалатарань сыстэмы „Эддзі" вусім сябе апраўдаў і што патрэба для калгасаў у іх узрастае, абавязаць Белсампрамсаюз на падставе дагавароў з Белсельгасснабам выпрацаваць да 1 жніўня 1932 г. 1.000 ільнамалатарань, прыняўшы ўсе меры да зьніжэньня сабекошту гэтых машын.

## V. У галіне разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі

16. ЦК КП(б)Б і СНК БССР папярэджваюць усе партыйныя, савецкія, калгасныя і прафсаюзныя арганізацыі, што „праблема развіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі, зьяўляецца актуальнай для БССР, як аднаго з важнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага Саюзу“ (з пастановы аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б) і абавязвае забясьпечыць дакладнае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

17. Народнаму Камісарыяту Земляробства, Калгасцэнтру, РК КП(б)Б і РВК у часе веснавой с.-г. кампаніі забясьпечыць:

а) выкананьне плянаў камплектаваньня стада саўгасаў і КТФ і павялічэньне прадукцыйнасьці і таварнасьці жывёлагадоўлі;

б) поўнае захаваньне маладняка як буйнай рагатай жывёлы, так і дробнай, разгарнуўшы барацьбу з кулацкімі праяўленьнямі і агітацыяй за зьнішчэньне жывёлы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на барацьбу з падзяжом маладняка.

18. ЦК КП(б)Б і СНК БССР патрабуюць рашучай барацьбы з недаацэнкай конскай цягавай сілы і кулацкай агітацыяй, з разбазарваньнем коняй, прыцягваючы да суровай адказнасьці вінаватых у разбазарваньні коняй.

19. Для павялічэньня прадукцыйнасьці стада і барацьбы з ялавасьцю, Народнаму Камісарыяту Земляробства, саўгастрэстам, Калгасцэнтру разгарнуць шырокую работу па ліквідацыі ялавасьці, для чаго арганізаваць шырокую сетку злучных пунктаў.

„Правядзеньне злучной кампаніі павінна стаць такой-жа ўдарнай кампаніяй, як пасеўная і ўборачная“ (з пастановы лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

## VI. У галіне павышэньня ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці жывёлы

20. ЦК КП(б)Б і СНК БССР лічаць неабходным дабіцца павышэньня ўраджайнасьці:

а) збожжавых культур на 12 проц.;
б) траў і тэхнічных культур (лён і каноплі) на 15 проц.;
в) бульбы на 20 проц.

Па прадукцыйнасьці жывёлы дабіцца павышэньня ўдою кароў і выхаду таварных падсьвінкаў на 20 проц.

21. Для ажыцьцяўленьня задач павышэньня ураджайнасьці і прадукцыйнасьці жывёлы абавязаць Народны Камісарыят Земляробства, Калгасцэнтр, саўгастрэсты, прафсаюзныя арганізацыі, РК КП(б)Б і РВК правесьці:

а) на працягу 1932 году арганізацыю правільнага, у адпаведнасьці са спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі, севазвароту ва ўсіх старых і новаарганізаваных саўгасах і калгасах;

б) 100 проц. ачыстку насеньня, прывёўшы неадкладна ў спраўны стан усе збожжаачышчальныя машыны МТС, саўгасаў і калгасаў, стварыўшы такую расстаноўку машын, абозаў і арганізацыю іх працы, каб ачыстка веснавых збожжавых і тэхнічных культур была скончана не пазьней 1 сакавіка;

в) засеяць гатунковым і таварна-гатунковым насеньнем збожжавых культур (ячмень, авёс) 250.000 *га*, з іх у саўгасах—40.000 *га*, у калгасах—210.000 *га*, бульбы—10.000 *га*, з іх у саўгасах—1.800 *га* і ў калгасах—8.200 *га*, правёўшы абмен насенных фондаў на гатунковае і таварна-гатунковае насеньне ў зімовы час з тым, каб быў скарыстаны санны шлях.

Абмен збожжавых і тэхнічных культур скончыць да 1 лютага, а бульбы—да 1 мая;

г) сабраць да веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі 30.000 тон попелу, правесьці тарфаваньне ўвесну на плошчы 40,000 *га*, з іх у саўгасах—8.000 *га* і ў калгасах —32.000 *га*, завапнаваць глебу вясной на плошчы 32.000 *га*, з іх у саўгасах 7.000 *га* і ў калгасах—25.000 *га*;

д) завезьці да веснавой сяўбы мінэральнага ўгнаеньня ня менш 100.000 тон, з іх супэрфасфату—25.000 тон, фасфарытнай мукі—50.000 тон, калійных—25.000 тон, абавязаўшы РК КП(б)Б неадкладна арганізаваць вывазку ўгнаеньня, якое ёсьць на станцыях чыгункі і складах;

е) зараз-жа пачаць падрыхтоўчую работу па барацьбе са шкоднікамі сельска-гаспадарчых расьлін, праводзячы барацьбу са шкоднікамі на плошчы садоў у 5.000 *га*, гародаў—7.000 *га*, караньплодаў—6.500 *га* і тэхнічных культур—7.000 *га*;

ж) поўнасьцю скарыстаць радавыя сяваркі з мэтаю рацыянальнага і эканомнага скарыстаньня насеньня;

з) арганізаваць сапраўдную барацьбу з эпізоотыяй, асабліва з эпізоотыяй чумы сьвіней, забясьпечыўшы сапраўднае паляпшэньне вэтэрынарна-санітарнага становішча жывёлы ў саўгасах і калгасах;

і) арганізацыю выпасаў для жывёлы, укараняючы практыку кругласутачнай пашы жывёлы.

## VII. У галіне снабжэньня сельска-гаспадарчым інвэнтаром і прыладамі

22. Вызначыць агульны завоз трактараў, сельска-гаспадарчых машын, запасных частак і прылад да веснавой сяўбы ў суме 10 млн. рублёў, абавязаўшы Народны Камісарыят Земляробства, беларускае аддзяленьне Трактарацэнтру, Белсельгасснаб асаблівую ўвагу зьвярнуць на сваячасовы завоз трактараў, сельска-гаспадарчых машын і ўгнаеньняў да веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі з тым, каб была поўнасьцю скарыстана санная дарога для развозу.

23. Абавязаць упаўнаважанага Трактарацэнтру, саўгастрэсты, РК КП(б)Б і РВК забясьпечыць двухзьменную работу трактараў і складаных с.-г. машын, а Народнаму Камісарыяту Земляробства ўстанавіць нагрузку трактараў і кожнага віду сельска-гаспадарчых машын.

24. Абавязаць упаўнаважанага Трактарацэнтру, саўгастрэсты, РК КП(б) і РВК закончыць абсталяваньне майстэрань для рамонту с.-г. машын да 15 студзеня і рамонту трактараў і с.-г. машын—да 1 сакавіка.

25. Абавязаць саўгастрэсты, упаўнаважанага Трактарацэнтру і Белкаапсаюз закончыць падрыхтоўку нафтахавальнікаў да 1 лютага, а ўпаўнаважанага Саюзнафты забясьпечыць поўны завоз нафтапрадуктаў да веснавой с.-г. кампаніі не пазьней 15 сакавіка.

26. Агульны недахват неабходных у сельска-гаспадарчай вытворчасьці дробных частак (хамуты, сядзелкі, дугі, пастромкі, рыдлёўкі, граблі і г. д.) можа перашкодзіць павышэньню якасных паказальнікаў. У мэтах зьнішчэньня гэтага недахвату ЦК КП(б)Б і СНК прапануюць:

а) дырэктаром саўгасаў і праўленьням калгасаў да 20 студзеня арганізаваць выпуск рымарных, цясьлярскіх, вярбовачных вырабаў, вылучыўшы для гэтага спэцыяльна асоб, забясьпечыўшы гэту вытворчасьць неабходным сырцом і інструмантамі.

б) Народнаму Камісарыяту Снабжэньня, Белкаапсаюзу, Белсампрамсаюзу і Белсельгасснабу арганізаваць загатоўку, гандаль і снабжэньне саўгасаў і калгасаў фабрыкатамі і паўфабрыкатамі па выпуску гэтых вырабаў, асабліва інструмантаў.

## VIII. У галіне стварэньня кармовай базы

27. Для забесьпячэньня веснавой сяўбы і рацыянальнага скарыстаньня конскай цягавай сілы, абавязаць РК КП(б)Б, РВК, саўгасы і калгасы не пазьней 1 лютага скончыць арганізацыю браніяваных фуражных фондаў да веснавой с.-г. кампаніі, забясьпечыўшы поўнае выкананьне плянаў загатоўкі фуражу.

Абавязаць Народны Камісарыят Зямляробства і Калгасцэнтр устанавіць кантроль за іх стварэньнем і расходваньнем.

28. Лічачы абавязковым выкананьне плянаў загатовак, абавязаць саўгастрэсты і Калгасцэнтр устанавіць найбольш эканомнае і рацыянальнае скарыстаньне кармовых рэсурсаў, жорсткі плян расходваньня кармоў, які-б забясьпечыў гаспадаркі кармамі да вясны.

29. Адначасова з пашырэньнем палявой травасяўбы, бульбы і кораньплодаў правесьці пасеў сіласных культур на плошчы 25.000 *га*, будаўніцтва сіласных установак і сіласаваньне кармоў 1.200 тыс. тон, карэннае паляпшэньне сенажацяй і закладку штучных выпасаў на плошчы 18.500 *га*, павярхоўнае паляпшэньне сенажацяй у 1932 г. на плошчы 300.000 *га*, з іх вясною—100.000 *га*.

## IX. У галіне ўкараненьня агратэхнікі

30. Абавязаць Народны Камісарыят Зямляробства, Калгасцэнтр, саўгастрэсты, райкомы КП(б)Б і раённыя выканаўчыя камітэты разгарнуць шырокую работу па ўкараненьні агратэхнікі ва ўсе працэсы сельска-гаспадарчай вытворчасьці, разгарнуўшы барацьбу за аўладаньне тэхнікай шырокімі коламі рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікамі, для чаго прыстасаваць праграму сельскіх школ рабочай і калгаснай моладзі, арганізаваць ва ўсіх саўгасах і калгасах гурткі па аўладаньні тэхнікай сельска-гаспадарнай вытворчасьці.

31. Абавязаць Дзяржвыдавецтва Беларусі і рэдакцыі цэнтральных і мясцовых газэт арганізаваць аграпрапаганду як на старонках газэт, а таксама і шляхам выданьня папулярнай масавай сельска-гаспадарчай літаратуры.

Народнаму Камісарыяту Зямляробства і Белдзяржвыдавецтву ўстанавіць цьвёрды плян выданьня масавай літаратуры да веснавой с.-г. кампаніі.

32. Для прапрацоўкі мерапрыемстваў па павышэньні сельска-гаспадарчай вытворчасьці, Народнаму Камісарыяту Зямляробства і Калгасцэнтру ў пэрыяд студзень—люты правесьці ўсебеларускі агранамічны зьезд, куставыя нарады раённых зямельных і калгасных работнікаў і раённыя агравытворчыя нарады-канфэрэнцыі.

## X. Аб давядзеньні плянаў да саўгасаў і калгасаў

Абавязаць Наркамзем, Калгасцэнтр, Трактарацэнтр і саўгастрэсты давесьці плян веснавой с.-г. кампаніі да саўгасаў, МТС не пазьней 20 студзеня 1932 г.

РК КП(б)Б і РВК давесьці плян да калгасаў і паасобных паселішчаў не пазьней 1-га лютага, разгарнуўшы шырокае абмеркаваньне плянаў веснавой с.-г. кампаніі на сходах рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі, мабілізуючы масы на іх выкананьне і прыняцьце сустрэчных плянаў.

Да кулацкіх гаспадарак пасеўныя пляны давесьці ў парадку цьвёрдых заданьняў.

34. Наркамзему ўстанавіць пяцідзённую і падэкадную справаздачнасьць аб ходзе выкананьня плянаў веснавой с.-г. кампаніі і разам з РСІ з прыцягненьнем шырокіх колаў працоўных арганізаваць масавы кантроль за ходам падрыхтоўчай працы да сяўбы і за выкананьнем усімі арганізацыямі плянаў веснавой с.-г. кампаніі.

## XI. У галіне мерапрыемстваў з аднаасобным сэктарам

34. Ня гледзячы на ўзмоцнены прыток у калгасы бядняцка-серадняцкіх мас, аднаасобны сэктар у 1932 г. ў БССР будзе яшчэ займаць у пасеве значнае месца, недаацэнка чаго была-б палітычнай памылкай.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР катэгарычна падкрэсьліваюць важнасьць масава-палітычнай работы сярод аднаасобных бядняцка-серадняцкіх мас і канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва імі і прапануюць РК КП(б)Б і РВК:

а) арганізаваць агравытворчую дапамогу бядняцка-серадняцкім аднасобным гаспадаркам;

б) ужыць усе захады да поўнага абсеменяненьня пасеўных плошчаў аднаасобнымі гаспадаркамі, ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па якасным паляпшэньні палаводзтва і жывёлагадоўлі.

35. На падставе гэтых асноўных задач даручыць агітмасаваму аддзелу, агрінстру і Культпропу ў дэкадны тэрмін унесьці спэцыяльны плян арганізацыйна масавых мерапрыемстваў і ўдзелу друку па падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы.

36. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прапануюць усім савецкім, партыйным, прафсаюзным і калгасна-кааперацыйным арганізацыям неадкладна пачаць і бальшавіцкімі тэмпамі разгарнуць падрыхтоўку да веснавой сяўбы з тым, каб забясьпечыць ранейшае правядзеньне сяўбы і яе сканчэньне ў максымальна-кароткі тэрмін.

37. ЦК КП(б)Б і СНК БССР падкрэсьліваюць, што задачы, якія стаяць перад веснавой пасеўнай кампаніяй 1932 г., могуць быць выкананы толькі пры бальшавіцкім ажыцьцяўленьні 6 умоў тав. Сталіна з боку ўсіх партыйных, савецкіх, гаспадарчых і грамадзкіх арганізацый, а таксама на аснове далейшай барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, рашучай барацьбы з правым, найбольш небясьпечным ухілам, „левым“ апартунізмам і прымірэнцтвам да ўхілаў ад лініі партыі, на аснове мабілізацыі актыўнасьці рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства на выкананьне і перавыкананьне плянаў сяўбы праз шырокае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Шаранговіч.**

# ВЫТВОРЧА-ФІНАНСАВЫ ПЛЯН—БАЯВАЯ

Бягучы 1932 год — заключны год пяцігодкі, зьяўляецца годам барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, годам упартай работы па арганізацыі і падняцьцю на вышэйшую ступень калгаснай вытворчасьці, павялічэньня выхаду таварнай прадукцыі, падвышэньня вытворчасьці працы калгасьнікаў і больш поўнае і рацыянальнае яе скарыстаньне. У гэтым годзе мы павінны яшчэ большую павесьці барацьбу з праяўленьнем у калгасах кулацкай ураўнілаўкі і безгаспадарчасьцю.

Таму плянаваньне калгаснай гаспадаркі набывае асабліва важнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Вытворча-фінансавы плян калгасаў павінен зьявіцца ня толькі дакумантам, у якім вызначаны гадавыя вытворчыя заданьні, а і баявой праграмай арганізацыі калгасных мас на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, на поўнае выкананьне ўсіх, вызначаных партыяй і ўрадам, вытворчых мерапрыемстваў, на забесьпячэньне лепшых якасных паказчыкаў у вытворчасьці калгаснай гаспадаркі.

У мінулым 1931 — трэцім рашаючым годзе пяцігодкі атрыманы вялізарнейшыя посьпехі ў справе калгаснага будаўніцтва. Калектывізавана па БССР звыш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. 32 машына-трактарных станцый з агульнай колькасьцю трактароў 1006 штук, якімі ўспахана каля 178.000 *га*, не гаворачы ўжо аб іншых праробленых імі работах. Арганізавана 1.203 малочна-калгасных таварных фэрм, у якіх пастаўлена 84.157 дойных кароў; 1.690 сьвінаводчых таварных фэрм з пагалоўем у 80.000 сьвінаматак. Пашырана пасеўная плошча, асабліва за лік тэхнічных і працаёмкіх культур. На адну калгасную сям'ю прыпадала ў 1931 г. абагуленага пасеву яравых 4,04 *га* супроць 2,42 *га* на сям'ю аднаасобнай гаспадаркі; пасеў тэхнічных культур 0,4 *га* на адну калгасную сям'ю, супроць 0,2 на аднаасобную. Дасягнуты значныя посьпехі ў справе арганізацыі калгаснай вытворчасьці і працы.

Аднак, трэба з усёй рашучасьцю падкрэсьліць, што **„дасягнутыя посьпехі ў арганізацыі калгаснай вытворчасьці зьяўляюцца яшчэ толькі першапачатковымі, не выкарыстоўваюцца яшчэ тыя магчымасьці разьвіцьця высока-таварнай гаспадаркі, якія забясьпечваюцца буйнай калектыўнай гаспадаркай, умовамі савецкага ладу і тэй вялізарнай вытворчай дапамогай, якая аказваецца з боку пралетарскай дзяржавы. Усё яшчэ нізкі выхад таварнай прадукцыі, нізкая ўраджайнасьць, нізкая ўдойлівасьць, зусім нізкі процант выхаду таварных сьвіней, вялікае асяданьне таварнай прадукцыі ўнутры саміх калгасаў, шырока распаўсюджаныя спажывецкія настроі і вынікаючыя адсюль выпадкі рвацтва і г. д.“** (з пастановы аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Неабходна асабліва мець на ўвазе тое, што ў вытворча-фінансавым пляне калгасу на 1932 г. трэба мець ня толькі пералік, колькі патрэбна будзе апрацаваць глебы, засеяць той ці іншай культуры, альбо колькі набыць жывёлы, але і колькі патрэбна будзе цьвёрда ўстанавіць вызначанае заданьне выхаду прадукцыі з кожнага гектару і кожнай жывёлы.

Галоўнай асновай пры складаньні вытворча-фінансавага пляну калгасу зьяўляюцца кантрольныя лічбы вытворчых заданьняў на ўвесь год.

Таму кожны калгас, прыступаючы да работы па складаньню плянаў, павінен кантрольныя лічбы вытворчых заданьняў дэталёва прапрацаваць на нарадах у брыгадах і ў асобных галінах гаспадаркі. Трэба ўстанавіць паказчыкі ўраджайнасьці, прадукцыйнасьці і колькасьці таварнай прадукцыі для здачы (продажу) дзяржаве. Кантрольныя лічбы ўсіх мерапрыемстваў па здачы (продажу) разглядаць, як самаабавязкі калгасу перад пралетарскай дзяржавай, і на выкананьне гэтых мерапрыемстваў трэба мабілізаваць усе калгасныя масы.

Выходзячы з умоў кожнай гаспадаркі калгасу і напрамку яе спэцыялізацыі, трэба намеціць канкрэтныя, прапрацаваныя ўсёй калгаснай масай агратэхнічныя мерапрыемствы па падняцьцю ўраджайнасьці калгасных палёў, па пераходу на шлях культурнага вядзеньня земляробства. Лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б абавязаў Інстытут сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі распрацаваць тыпы севазваротаў для спэцыялізаваных калгасаў. Трэба катэгарычна патрабаваць выкананьня гэтай дырэктывы ў найкарацейшы тэрмін. Трэба, каб гэтыя севазвароты былі дасланы калгасам зараз-жа з тым, каб пры складаньні плянаў яны былі пакладзены ў аснову плянаваньня культурнага вядзеньня гаспадаркі калгасу.

Пытаньне разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, як арганізацыя таварных калгасных фэрм, камплектаваньне, выросьліваньне маладняка, барацьба за большую прадукцыйнасьць і падвышэньне таварнага выхаду прадуктаў жывёлагадоўлі, — павінна знайсьці яскравы адбітак у вытворча-фінансавым пляне.



**Складаньне вытворча-фінансавага пляну калгасу.**

# ПРАГРАМА КАЛГАСУ НА 1932 ГОД

Спэцыялізаваныя калгасы не павінны замыкацца ў адной вядучай галіне. Трэба намеціць і шырока выкарыстаць усе магчымасьці другарадных галін гаспадаркі. Неабходна шырока разгарнуць арганізацыю ва ўсіх спэцыялізаваных калгасах падсобных галінах гаспадаркі, максымальна скарыстоўваючы ўсе мясцовыя рэсурсы і свабодную рабочую сілу калгасьнікаў. Вытворчы плян калгасу павінен яскрава адбіваць барацьбу за лепшую арганізацыю працы, за ўвядзеньне зьдзельшчыны на ўсіх работах, за больш поўнае і рацыянальнае скарыстаньне працоўнай сілы, за скарыстаньне рабочай сілы калгасьнікаў на адыходных работах. Ва ўсіх калгасах павінны быць падагулены вынікі той багатай практыкі і вопыту, якія атрыманы калгасьнікамі ў выніку работы мінулага году ў справе лепшай пастаноўкі работы, ліквідацыі абязьлічкі, прымяненьня сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Шэсьць гістарычных умоў тав. Сталіна павінны заняць пэўнае месца ў складаемых плянах.

Пытаньне адыходніцтва, якое мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе забесьпячэньня сацыялістычнай прамысловасьці рабочай сілай, павінна быць адзначана як самастойнае мерапрыемства. У вытворча-фінансавым пляне трэба вызначыць колькасьць адыходнікаў за ўвесь год і пасэзонна. У пляне трэба зусім выразна вызначыць усе грашовыя прыбыткі і выдаткі; кожны рубель павінен мець сваё мэтавае прызначэньне.

Неабходна папярэдзіць памылкі і недахопы, меўшыя месца ў асобных калгасах у мінулым годзе, калі вытворчыя пляны складаліся габінэтным парадкам бяз удзелу шырокіх калгасных мас, у выніку чаго такія пляны аказаліся няжыцьцёвымі. У складаньні плянаў павінны прыняць шырокі ўдзел калгасьнікі. На складаньне вытворча-фінансавых плянаў трэба кінуць лепшых работнікаў раённых устаноў і арганізацый, аграномаў, рахункаводаў. Настаўніцтва павінна прыняць актыўны ўдзел у складаньні плянаў.

Складаньне вытворча-фінансавых плянаў—адказьнейшы вучастак работы ў барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў. Партыйныя і камсамольскія ячэйкі ў калгасах павінны быць у першых шэрагах барацьбітоў за калгасны плян.

З усёй рашучасьцю трэба змагацца за якасьць складаемых плянаў. На выкананьне гэтай адказьнейшай работы трэба мабілізаваць увагу калгасьнікаў і калгасьніц і ўсю савецкую грамадзкасьць.

**А. Залескі.**

# Арганізаваць падрыхтоўку да 3-яй бальшавіцкай вясны

*(Мазырскі раён)*

Па пытаньню падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі і арганізацыйна гаспадарчаму замацаваньню калгасаў, рэдакцыя „Калгасьніка Мазыршчыны“ склікала нараду прадстаўнікоў: райкалгассаюзу, райкаапсаюзу, райземчасткі, Белдзяржмашснабу, райкому камсамолу і насеннаводсаюзу. Выявілася, што плян веснавой пасеўнай кампаніі ні райземчасткай, ні райкалгассаюзам да гэтага часу не прапрацованы, тлумачаць гэта тым, „што бяз пляну Наркамзему яны самі ня могуць скласьці“.

Нарыхтоўка насеньня — важнейшая частка пасеўнай кампаніі,—між іншым ні райкалгассаюз, ні райкаапсаюз, ні райземчастка ня ведаюць, колькі патрэбна насеньня, колькі сабрана. Аб чыстцы насеньня таксама няма зьвестак, бо нічога ў гэтым напрамку ня робіцца. Узор не бальшавіцкай падрыхтоўкі паказала насенкантора, якая сабрала насеньня ўсяго толькі 30 проц.

Рамонт сельска-гаспадарчых машын да гэтага часу не вытвараецца. Ні адзін калгас раёну не прадставіў заяўкі на рамонт сельска-гаспадарчых машын, трактароў і запасныя часткі; з рамонтам трактароў з пачатку кампаніі неразьбярыха. Раней была тэлеграма, каб трактары адпраўляць на рамонт у Лоеў, а потым у Рагачоў, а трактары і сёньня стаяць не адрамантаваныя.

Ня гледзячы на катэгарычныя пастановы аб недапушчальнасьці зьнішчэньня цягавай сілы, усё-ж в гэтым справа стаіць вельмі дрэнна. Забіваюць коняй і кормяць сьвіней.

Аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі ў індывідуальным сэктары ніхто і слова не сказаў. Райкапсаюз кажа, што „гэта ня наша справа, мы толькі павінны нарыхтоўваць жывёлу“, райкалгассаюз кажа, што райкаапсаюз, і такім чынам атрымоўваецца, што індывідуальны сэктар зусім выпаў з веснавога пляну.

З выяўленых на нарадзе фактаў і прысылаемых допісаў рабселькораў з раёну дастаткова, каб канстатаваць, што падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі арганізацыямі (райкалгассаюз, райкаапсаюз) Мазыршчыны знаходзіцца ў пагражаючым становішчы.

Па арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў райкалгассаюз праводзіў працу „агулам“ ня ўвязваючы з канкрэтнай работай. Ад такой „работы“ разьмеркаваньне даходаў у калгасах, якое зьяўляецца адным з важнейшых зьвеньняў арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасу, у большасьці калгасаў не праведзена. У 80 калгасах раёну яшчэ не разьмяркован ураджай, невядомы прыбытак. У большасьці калгасаў існуе абязьлічка, бо чым магчыма вытлумачыць такі ганебны факт, калі ў калгасе імя Сталіна, утанула карова, а яны цэлы месяц аб гэтым не ведалі, што не хапае каровы. „Арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў ня наша справа“—заявіў прадстаўнік райкаапсаюзу Казлоў і таму, мабыць, ён паслаў для працы па разьмеркаваньню ўраджаю, увядзеньню зьдзельшчыны зусім глухога рахункавода.

Нарада ўдарыла па такой рабоце, прыняла шэраг практычных прапаноў, а зараз неабходна ўзьняць актыўнасьць калгасьнікаў і ўсіх грамадзкіх арганізацый на практычнае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў нарады.

**А. Кузьмянок, А. Цэхтман, С. Зайцаў.**

# ЗА ПАДРЫХТОЎКУ КАДРАЎ ПРАЗ ЗАВОЧНАЕ НАВУЧАНЬНЕ

Гіганцкія тэмпы сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі патрабуюць аграмаднай колькасьці спэцыялістых.

Ня гледзячы на шпаркі колькасны ўзрост навучальных устаноў, на скарачэньне тэрміну навучаньня, у сувязі з пераходам на актыўныя мэтады навучаньня,—мы, аднак, не пасьпяваем падрыхтаваць праз стацыянарныя школы тую колькасьць спэцыялістых і кваліфікаваных рабочых, якая нам патрэбна. Падрыхтаваць недастаючую колькасьць мы павінны іншымі спосабамі і ў першую чаргу шляхам завочнага навучаньня.

Мажлівасьці завочнага навучаньня амаль неабмежаваны. Калі стацыянарныя навучальныя ўстановы вымушаны бываюць адмаўляць у прыёме з-за недахопу месца, дык пры завочным навучаньні гэтае пытаньне адпадае, бо памяшканьняў пры завочным навучаньні амаль не патрэбна. Калі ў стацыянарную навучальную ўстанову некаторыя ня маюць мажлівасьці паступіць (па сямейным ці службовым прычынам), дык пры завочным навучаньні гэтых прычын ня існуе, таму, што навучаньне праводзіцца без адрыву ад працы на вытворчасьці.

Завочнае навучаньне нельга разглядваць як нешта такое, што вельмі адрозьніваецца ад навучаньня ў стацыянарных навучальных установах. У асноўным як у стацыянарных, гэтак і ў завочных школах навучаньне праводзіцца аднолькава—актыўнымі мэтадамі, гэта значыць шляхам самастойнай прапрацоўкі студэнтамі навучальнага матар'ялу пад кіраўніцтвам пэдагагічна-прафэсарскага пэрсаналу. Розьніца паміж навучаньнем у стацыянарных школах і завочных у тым толькі, што ў першым выпадку кіраўніцтва вучобай ажыцьцяўляецца непасрэдна (часьцей за ўсё вусна, а ў другім—шляхам перапіскі. Але-ж і гэтая розьніца не заўсёды бывае, бо і пры завочным навучаньні шырока ўжываецца непасрэднае (вуснае) кіраўніцтва: на кансультацыйных пунктах, на лябораторна-сэмінарскіх сэсіях, па радыё і інш. З часам, усякая розьніца паміж вочным і завочным навучаньнем будзе скасавана. Ня будзе ні вочнага навучаньня, ні завочнага, а будзе вочна-завочнае. Ужо і зараз некаторыя стацыянарныя навучальныя ўстановы, як, напрыклад, Ленінградзкі інстытут мэханізацыі, навучаньне студэнтаў апошняга курсу праводзіць завочна. Ужо і зараз няма ніякай розьніцы ў правох паміж скончыўшымі стацыянарныя навучальныя ўстановы і завочныя. Згодна пастановы Савету Народных Камісараў БССР—сыстэма завочнага навучаньня ўваходзіць у агульную сыстэму народнае асьветы. Дырэктары стацыянарных навучальных устаноў у аднолькавай ступені адказваюць як за вочную, так і завочную падрыхтоўку кадраў. Завочнікі таксама забясьпечваюцца падручнікамі, паперай і г. д., як і студэнты стацыянарнай школы.

Завочнікі вучацца ня толькі на вытворчасьці, але-ж і ў стацыянарнай навучальнай установе, куды яны на адзін-паўтары месяцы штогодна выклікаюцца на лябораторна-сэмінарскія сэсіі.

Такім чынам, тыя таварышы, якія думаюць, што завочнае навучаньне нешта зусім не падобнае да вочнага навучаньня і што завочнае навучаньне зьяўляецца чым-та другарадным—памыляюцца. Гэтая памылка тлумачыцца, галоўным чынам, незнаёмствам з мэтадамі навучаньня ў стацыянарных, а таксама і завочных навучальных установах.

Атрымаць належныя веды, атрымаць здольнасьць спэцыялістага можна ў аднолькавай ступені як пры навучаньні ў стацыянарнай навучальнай установе, гэтак і ў завочнай.

Згодна пляну Наркамзему СССР мы павінны ахапіць завочным навучаньнем да канца 1932 году ня менш аднаго мільёна чалавек.

Завочная падрыхтоўка сельска-гаспадарчых кадраў вышэйшай, сярэдняй кваліфікацыі і брыгадзіраў праводзіцца завочнымі сэктарамі пры сельска-гаспадарчых вышэйшых навучальныхустановах і тэхнікумах. Сьпіс завочных сэктароў БССР, умовы прыёму і г. д. надрукаваны ў праспэкце Беларускага Рэспубліканскага інстытуту завочнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі сельска-гаспадарчых кадраў. Праспэкт разасланы па ўсіх саўгасах, калгасах, МТС, райземчасткам і інш. раённым арганізацыям БССР.

Кожны рабочы і служачы саўгасу, МТС, кожны калгасьнік павінны набываць і падвышаць свае веды. Завочнае навучаньне, паколькі яно праводзіцца без адрыву ад вытворчасьці, зьяўляецца найлепшым для гэтага сродкам.




Паседжаньне рэдкалегіі па выпуску спэцыяльнага нумару насьценгазэты, прысьвечанай падрыхтоўцы да веснавой сяўбы

Самастойная прапрацоўка навучальнага матар'ялу, пры спалучэньні вучобы з працай на вытворчасьці, зьяўляецца адным з найбольш актыўных мэтадаў навучаньня, якія забясьпечваюць тую якасьць падрыхтоўваемых спэцыялістых, што патрэбна для нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

**В. Крэйдзіч.**

**Ад рэдакцыі.** У наступных нумарох часопісі „Шляхі калектывізацыі“ будуць зьмешчаны артыкулы практычнага характару аб завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў.

# „ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ПРАЦЫ—ГЭТА У АПОШНІМ ЛІКУ САМАЕ ВАЖНАЕ, САМАЕ ГАЛОЎНАЕ ДЛЯ ПЕРАМОГІ НОВАГА ГРАМАДЗКАГА ЛАДУ“

*(У. І. ЛЕНІН)*

## У БАРАЦЬБЕ ЗА АРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАЕ УМАЦАВАНЬНЕ КАЛГАСАУ

*(Вушацкі раён)*

Рэдкалегія насьценгазэты і партыйна-камсамольскі актыў калгасу „Чырвоная Палаччына“, Завячэльскага сельсавету, дэталёва абгаварыўшы ўмовы абвешчанага ЦО „Праўдой“ Усесаюзнага конкурсу нізавога друку на лепшую пастаноўку працы па арганізацыйна гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў—пастанавілі: уключыцца ў конкурс, дабіўшыся штодзеннага выпуску насьценгазэты „На штурм“, практыкуючы новыя формы рабселькораўскай работы (работа брыгадамі друку, рэйды, пасты і г. д.), робячы асаблівы ўпор на ўкараненьне мэтадаў работы ўдарнымі брыгадамі друку.

Пасьля прыняцьця пастановы рэдкалегія прыступіла да працы. Зараз у калгасе выходзіць штодзёнка насьценгазэта „На штурм“. На заклік штодзёнкі пасьля зьмешчанай заметкі аб рабоце на МТКФ, адгукнуўся загадчык МТКФ, які склікаў вытворчую нараду, дзе была дэталёва абгаворана пастанова лістападаўскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Па гэтай справе на нарадзе вылучаны спэцыяльныя брыгады па догляду за жывёлай, на якія ўскладзена пэрсанальная адказнасьць за пэўную колькасьць кароў. Брыгады абвясьцілі сябе ўдарнікамі, усе галіны работы на фэрме пераведзены на зьдзельшчыну.

Патрабаваньнем штодзёнкі Завячэльскае сельпо ўзяло на сябе самаабавязацельства вылучыць фонд тавараў для прэміяваньня лепшых ударнікаў па догляду за жывёлай.

Рэдкалегія насьценгазэт калгасу „Чырвоная Палаччына“ абавязалася ўзятыя мэтады па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасу ўкараніць ва ўсе галіны калгаснай работы.

Усе рэдкалегіі нізавога друку павінны дабіцца максымальнейшых перамог на фронце арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і падхапіць вопыт работы рэдкалегіі калгасу „Чырвоная Палаччына“.

**Я—к.**

## Калгас імя Сьвярдлова змагаецца за разьвіцьцё жывёлагадоўлі

*(Рагачоўскі раён)*

Калгас імя Сьвярдлова самы вялікі ў Рагачоўскім раёне. Ён па-баявому разьвязвае праблему жывёлагадоўлі. Калгас актыўна змагаўся за ўкамплектаваньне малочна-таварнай фэрмы, якая на сёньня мае 205 штук буйнай рагатай жывёлы.

На аснове практычнага ажыцьцяўленьня шасьці паказаньняў т. Сталіна на фэрме ліквідавана абязьлічка ў доглядзе за каровамі, дадзены нормы выдачы кармоў, уведзен распарадак працы паміж усімі скотнікамі.

Але побач з актыўнымі скотнікамі ёсьць і лодыры, якія дрэнна адносяцца да жывёлы, раскідаюць кармы, а часам і зусім не зьяўляюцца на працу.

На фэрме меўся прарыў з укамплектаваньнем жывёлы, у ацяпленьні хлявоў, але пры напруджанасьці калгасьнікаў па-ўдарнаму закончана пабудова цёплага, сьветлага кароўніка на 100 штук кароў.

Кепска тое, што ў калгасе няма две складаць сена, і возчыкі, вязучы сена, раскідаюць яго па ўсяму калгаснаму двару.

Для ўсіх кароў з мэтай эканоміі корму зроблены кармушкі і драбінкі, дзе сена не трапляе пад ногі каровам. Для кожнай цельнай каровы штодзенна даецца па 8 *кг* кораньплодаў.

Гэтыя посьпехі неабходна замацаваць калгасу і на аснове 6-ці паказаньняў т. Сталіна актыўна змагацца за сацыялістычную жывёлагадоўлю, прымяняючы сацыялістычныя мэтады працы.

**Н. Савіцкі.**

---

**„Веснавая с.-гасп. кампанія 1932 году набывае вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні праграмы чацьвертага—заключнага году пяцігодкі“ (ЦК КП(б)Б і СНК БССР).**

**Усе сілы на падрыхтоўку да трэцяй бальшавіцкай вясны!**

# Прыклад „Будаўнiка“ ва ўсе калгасы

*(Узьдзенскі раён)*

Падрыхтоўчая работа да трэцяй бальшавіцкай вясны па Вузьдзенскаму раёну яшчэ амаль не распачата.

Адзін толькі калгас „Будаўнік“, Каменскага сельсавету, сур'ёзна ўзяўся за падрыхтоўку да вясны. Гэты калгас на справе ажыцьцяўляе пастанову ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы ў зімовы пэрыяд, праз розныя кароткатэрміновыя курсы, масавых кадраў.

У калгасе „Будаўнік“ адчынены і працуюць курсы для падрыхтоўкі брыгадзіраў у колькасьці 15 асоб, з іх 50 проц. жанчын. Насенны фонд поўнасьцю засыпан. Выпрацаван плян веснавых работ, які абгаворан і прынят на агульным сходзе калгасьнікаў.

Зроблен сталы перавучот маючага ў калгасе інвэнтару і прыступлена да рамонту і набыцьцю недастаючага інвэнтару.

Прыклад калгасу „Будаўнік“ у падрыхтоўцы да вясны павінны падхапіць усе калгасы.

**Юрка Снытко.**

# Узорны догляд за жывёлай

*(Рагачоўскі раён)*

Калгас „Свабода“ за апошні час зьнішчыў недахопы і мае цэлы шэраг дасягненьняў у галіне жывёлагадоўлі. Пры калгасе ёсьць малочна-таварная фэрма, якая паказвае бліскучыя прыклады догляду за каровамі, палепшылася праца па доглядзе ў МТФ з практычнага ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў таварыша Сталіна. Усё стада кароў МТФ разьбіта на чатыры групы.

1) Дойныя каровы з ацёлам у лютым і сакавіку месяцы.

2) Нядойныя каровы з ацёлам у студзені месяцы.

3) Цяляты ва ўзросьце ад 3 год і

4) Быкі, ялаўкі, цяляты-пярэзімкі.

Да кожных 25—30 кароў прымацавалі на сталую працу па аднаму даглядчыку з лепшых калгасьнікаў-ударнікаў, а да дойных кароў прымацавалі доек. Ліквідавана ўраўнілаўка ў аплаце працы калгаснага даглядчыка, уведзена прагрэсыўна - прэміяльная зьдзельшчына, праца ацэньваецца ў працаднёх з прэміяваньнем даглядчыкаў і доек ад павышэньня ўдойнасьці і ўпітанасьці, устаноўлен сталы ўнутраны распарадак па кожнаму кароўніку МТФ. На ўсю жывёлу МТФ выдаецца дзенная норма кармоў, выходзячы з колькасьці і вагі кароў; корм раздаецца даглядчыкам пад кантролем загадчыка МТФ, які сочыць за рацыянальным выдаткаваньнем кармоў і захаваньнем норм выдачы кожнай карове.

Кароўнікі малочнай фэрмы ўсе ацеплены, ва ўсіх кароўніках зроблена столь, сьцены атынкованы, дзьверы абіты саломай, кожная карова мае кармушку, стойлавае месца і прывязь. Пры палепшаньні ўмоў па догляду за жывёлай, палепшылася якасьць прадукцыі і павялічылася колькасьць малака ад кожнай каровы.

**Я. С.**

# Больш увагі СТФ

*(Полацкі раён)*

Па раёнах шмат маецца СТФ, але праца да гэтага часу па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню вядзецца недастаткова.

Калгас „Труд“, Варонацкага сельсавету, мае 300 галоў сьвіней. Сьвіньня знаходзіцца ў вельмі кепскіх умовах. Сьвінарнікі не пабудаваны як належыць быць—зусім халодныя. Кармавая база не падрыхтавана. Сьвіньні стаяць бяз подсьцілу. Праўленьне тлумачыць гэта тым, што няма саломы, і ніякіх захадаў да набыцьця подсьцілу ня прымае.

Кармленьне сьвіней праводзіцца па чарзе, пастаянных людзей ня вызначана. Зьдзельшчына адсутнічае.



Ня лепш абстаіць справа і з сьвінаводнай фэрмай у калгасе імя Карла Маркса, Заспарскага сельсавету, дзе маецца 180 сьвінаматак, але сьвінарнік на зіму застаўся ня скончаным. Умовы па догляду таксама кепскія.

Праўленьне калгасу спасылаецца на аб'ектыўныя ўмовы: „не хапае людзей, няма цьвікоў і інш.“.

Калгас Фрунзэ, на самай мяжы з белапанскай Польшчай, адзін з буйных калгасаў раёну, у якім справа сьвінагадоўлі знаходзіцца ў заняпадзе. Маецца пяцьдзесят сьвінаматак і ўвесь прыплод ад іх у сьнежні месяцы загінуў, бо сьвіньні стаяць пад адкрытым небам, сьвінарнік не пакрыты, праўленьне спасылаецца, што няма гонты і цьвікоў, а ў той час гніе салома, якой таксама можна было-б накрыць сьвінарнік.

Партячэйкі не ўявілі сабе той вялікай ролі ў кіраўніцтве існуючых фэрм і мала цікавяцца справай сьвінагадоўлі. Неабходна партячэйкам сельсавету і ўсяму актыву заняцца пытаньнем перабудовы працы на фэрме, вылучыць пастаянны абслугоўваючы штат, забясьпечыць кармамі і пад лёзунгам сацспаборніцтва праводзіць арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне фэрм, уныдраючы зьдзельшчыну і г. д.

**А. Сьмолы.**

# ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ПРАТРУЧВАНЬНЯ НАСЕНЬНЯ

Згодна пастановы НКЗ БССР па БССР патрэбна вытварыць пратручваньне на 100 проц., што складае больш 100.000 тон. Гэта выклікана тым, што сажа шмат зьнішчае збожжавых расьлін, асабліва аўсу, ячменю, пшаніцы і проса. У некаторых калгасах і саўгасах страты ад галаўні дасягаюць да 30 проц., а то і болей. Але перш чым вытварыць пратручваньне насеньня патрэбна ведаць кожнаму калгасьніку, саўгасьніку, аднаасобніку працэс самога пратручваньня.

Патрэбна ведаць, што пратручваньне насеньня ўтвараецца мокрым, паўсухім і сухім мэтадам.

Мокрае і паўсухое пратручваньне насеньня ўтвараецца фармалінам, а сухое пратручваньне атрутамі-парашкамі.

## Спосабы пратручваньня насеньня і мэтады вытварэньня іх

### Мокры спосаб пратручваньня насеньня

Мокрае пратручваньне фармалінам, які добра дзейнічае супроць галаўні аўса, ячменю і проса, праводзіцца наступным чынам: бярэцца адна або дзьве бочкі, у залежнасьці ад аб'ёму працы, налівaeцца 300 літраў вады і дадаецца 1 літр 40-проц. фармаліна. Трэба памятаць, што на 300 частак вады бярэцца 1 частка фармаліну. Уліўшы фармалін у ваду, патрэбна добра перамяшаць драўлянаю палкаю або лапатаю. Калі рошчына будзе гатова, тады адсартаванае насеньне насыпаецца ў мяшкі або кошыкі па 25—30 *кг* і апускаецца ў бочку з рошчынаю фармаліну. Апушчанае насеньне патрэбна трымаць 3—4 хвіліны. Пасьля гэтага тэрміну насеньне патрэбна выняць з рошчыны і патрымаць над рошчынаю, пакуль не сьцячэ лішняя рошчына фармаліну. Мокрае насеньне ссыпаецца ў кучы і пакрываецца мяшкамі або бразэнтам на 2 гадзіны, а потым пасьля гэтага тэрміну разгортваецца тонкім слоем і ў цяні прасушваецца.

Ніколі не патрэбна прасушваць насеньне на сонцы, бо ад такой прасушкі атрымоўваецца вялікі процант няўсходжасьці насеньня.

Але такі мокры спосаб пратручваньня зьяўляецца надта марудным і патрабуе вялікай затраты людзкой сілы і ўжываньне яго нямэтазгодна ў буйнай сацыялістычнай гаспадарцы.

Можна рабіць пратручваньне мокрым спосабам інакш, чым паказана вышэй. Вызначанае насеньне для пасеву рассыпаецца тонкім пластом на чыстую падлогу або ток і паліваецца рошчынаю фармаліну з апырсквацеля. Апырснутае насеньне добра перамешваецца. Рошчына фармаліну павінна быць наступная: на адну частку фармаліну, трыста частак вады. Мокрае насеньне, пратраўленае фармалінам, накрываецца мяшкамі або бразэнтам на 2 гадзіны, а потым у цяні прасушваецца.

Мяшкі, у якіх было насеньне, таксама павінны быць прамыты ў рошчыне фармаліну. Такая прамыўка рошчынаю фармаліну робіцца для таго, каб зьнішчыць споры галаўні.

Мокрае пратручваньне насеньня павінна рабіцца за тры-чатыры дні да пасеву.

Часта пры хаваньні фармаліну ў халодным памяшканьні фармалін ператвараецца ў белую, як сьнег, масу, якая ў вадзе не рашчыняецца і ня можа быць ужыта для пратручваньня насеньня. Для таго, каб перавесьці такі фармалін у першапачатковы стан, патрэбна яго пераліць у мэталічную пасудзіну і паставіць у напаленую печ, ад чаго фармалін стане вадкі. Але гэты сродак ператварэньня надта марудны і ў буйных гаспадарках, пры затраце вялікай колькасьці, фармаліну нявыгодны. Можна ператварыць такі белы фармалін у вадкі стан зусім другім мэтадам. У 20 літраў фармаліну з белымі пушынкамі ўсыпаецца 200 грам крысталічнай вуглякіслай соды; усыпаўшы вуглякіслую соду ў фармалін, гэта ўсё добра перамешваецца і ставіцца на трое сутак у цёплае месца. Ад гэтага густая маса распушчаецца і фармалін становіцца вадкі, толькі на дне застаецца невялікі асадак муці. Але тады крэпасьць фармаліну патрэбна абавязкова праверыць, таму што часта крэпасьць фармаліну менш 40 проц. і, узяўшы аднолькавую колькасьць яго з 40-проц. крэпасьцю, мы не дасягнем належнага эфэкту. Лепш перад пратручваньнем такім фармалінам паслаць пробу на праверку Бел. АБШ па адрасу: г. Менск, Савецкая 71, Бел. АБШ.

Рошчына фармаліну з вадою не зьяўляецца небясьпечнай для чалавека або жывёліны. Таму пратручанае насеньне, якое прамыта ў вадзе, можна ўжываць для стравы як чалавеку, так і жывёле. Хаваецца фармалін у шкляной пасудзіне, закрытай коркам, і залітай воскам ці парафінам. Хавацца фармалін павінен у цёплым памяшканьні; у халодным памяшканьні фармалін псуецца.

### Паўсухі і сухі мэтад пратручваньня насеньня

Паўсухое пратручваньне насеньня праводзіцца ў барацьбе супроць пыльнай галаўні аўса і цьвёрдай галаўні ячменю. Утвараецца паўсухое пратручваньне насеньня рошчынаю фармаліну, але канцэнтрацыя



Улік удою малака ў саўгасе „Вязынь-Фаніпаль".

фармаліну робіцца большая, чым пры мокрым пратручваньні насеньня. Пры пратручваньні насеньня паўсухім мэтодам на 80 літраў вады патрэбна браць адзін літр фармаліну. Вызначанае для пасеву насеньне рассыпаецца тонкім пластом і з апырскавацеля апырскваецца рошчынаю фармаліну. Апырснутае насеньне патрэбна добра перамяшаць драўлянаю лапатаю, а потым накрыць на 2 гадзіны мяшкамі або бразэнтам.

Паўсухое пратручваньне насеньня робіцца за тры-чатыры дні да пасеву. Паўсухі мэтад надта выгодны ў калгасах, саўгасах, таму што пры гэтым мэтадзе правядзеньня работы зусім амаль што адпадае затрата рабочай сілы на прасушваньне насеньня. Пры пратручваньні насеньня паўсухім мэтадам адным кілёграмам фармаліну патрэбна пратручваць 3 тоны аўса і 6 тон ячменю.

## Сухое пратручваньне насеньня

Сухі мэтад пратручваньня насеньня заключаецца ў тым, што насеньне не абмочваецца разбаўленаю вадкасьцю фармаліну, а апыльваецца хэмічнымі парашкамі. З ліку сухіх пратручваючых матэрый, якія ў нас больш распаўсюджаны, зьяўляюцца наступныя: абязводжаны медзяны купарос, хромпік, парашок АБ, парашок Давідава і парыская зелень.

Усе гэтыя агруты зьяўляюцца небясьпечнымі для жыцьця чалавека. Таму пры правядзеньні пратручваньня насеньня кожная працуючая асоба павінна гэта памятаць. Лепш пры працы на галаву надзяваць хустку ці шапку, каб у валасы не набівалася атрута. Патрэбна памятаць, што пратручваньне насеньня вышэйпаказанымі матэрыямі немагчыма ўжываць у страву чалавеку або жывёле. Пасьля працы з гэтымі матэрыямі патрэбна абавязкова добра мыць рукі і твар, а таксама выбіваць на паветры верхнюю вопратку.

## Абязводжаны медзяны купарос

Абязводжаны медзяны купарос атрымліваецца пры награваньні медзянага купаросу пры высокай тэмпэратуры. Абязводжаны медзяны купарос мае шэраваты колер. Хаваць яго патрэбна ў сухім месцы. На 1 тону насеньня патрэбна браць каля 2,5 грам абязводжанага медзянага купаросу. Пры працы патрэбна памятаць, што абязводжаны медзяны купарос зьяўляецца атрутаю. Само пратручваньне насеньня ўтвараецца машынамі, якія прызначаны для сухога пратручваньня насеньня. З машын, якія ўжываюцца для сухога пратручваньня насеньня, больш распаўсюджана машына „Идеал“, якая вырабляецца на Ленінградзкім заводзе „Тремас“.

Пратруціць машынаю „Идеал“ за гадзіну можна да паўтоны насеньня. Для вытвараньня апыленьня насеньне насыпаецца ў барабан машыны і дадаецца парашок абязводжанага медзянага купаросу з разрахунку на 16 *кг* насеньня 32 грамы медзянага купаросу. Усыпаўшы купарос і насеньне ў барабан, барабан круціцца пяць хвілін.

## Хромпік

Хромпік—або двухромакіслы калі, па знадворнаму выгляду крышталь чырвонаватага колеру. Для пратручваньня хромкік размолваецца ў спэцыяльных млынох. Перад пратручваньнем насеньня хромпік лепш зьмяшаць з вапнаю (на сто частак хромпіку бярэцца дзесяць частак вапны). Хромпік зьяўляецца вельмі атрутным парашком. Пры невялікім пападаньні ў страўнік чалавека выклікаюцца ваніты, ад чаго ў большасьці наступае сьмерць.

Калі хромпік пападае на невялікую ранку на руцэ або на твары, дык ад гэтага зьяўляюцца язвы, якія доўга не зажываюць.

Папаўшая невялічкая частка хромпіку на сьлізістыя абалонкі носу, вачэй, роту выклікае на іх язвы. Пры працы нос, рот абавязкова трэба абвязваць мокрай хусткай з ватаю або марляю. На вочы трэба надзяваць шофэрскія акуляры. На тону насеньня трэба браць 1,5 *кг* хромпіку.

## Парашок АБ

Парашок АБ зьяўляецца мелам, які апрацаваны завадзкім шляхам вуглякіслай медзьдзю. Калі ў парашку ёсьць да 38 проц. вуглякіслай медзі, парашок АБ добра дзейнічае супроць мокрай галаўні пшаніцы.

На 1 тону насеньня патрэбна браць 1,5 *кг* парашка АБ. Парашок АБ таксама моцная атрута, таму пры працы з гэтым парашком трэба прыняць усе перасьцярогі, каб атрута не папала ў рот. Патрэбна адзначыць, што парашок АБ пачынае заваёўваць вялікае месца ў пратручваньні, як сухі пратравіцель.

## Парашок Давідава

Парашок Давідава ўжываецца для сухога апыленьня насеньня. Ён таксама надта атрутны. Прыгатаўляецца ён з мышшакавіста-кіслага кальцыя, талькі і кааліну. На тону насеньня трэба браць 1 *кг* парашку Давідава.

## Парыская зелень

Парыская зелень таксама ўжываецца для сухога апыленьня насеньня супроць галаўні. На тону насеньня трэба браць 500 грам парыскай зелені. Апыленае насеньне нельга ўжываць для стравы чалавеку і жывёле таму, што парыская зелень зьяўляецца моцнай атрутай, якая ў сваім складзе мае вялікі процант мышшаку.

Згодна пастановы НКЗ БССР, у гэтым годзе к веснавой с.-г. кампаніі патрэбна будзе пратруціць больш 100.000 тон насеньня. Выкананьне гэтай лічбы патрабуе мабілізацыі ўсёй грамадзкасьці як Асаавіяхіму, камсамолу, так і піанэрскіх атрадаў. Ячэйкі Асаавіяхіму, ячэйкі камсамолу, піянэры павінны зараз стварыць гурткі ў калгасах, саўгасах, і праз іх пачаць вывучэньне тэхнікі пратручваньня насеньня, каб у часе гэтай вялікай кампаніі дапамагчы калгасам, саўгасам правільна арганізаваць пратручваньне насеньня.

Аграном **А. Марцавец**



**Вызначэньне якасьці ільну на вагатоўчым пункце.**

# Пасеў лубіну—адно з асноўных зьвеньняў барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці

Пытаньню ўздыму ўраджайнасьці калгасных палёў павінна быць зьвернута ўвага ўсіх рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў у час падрыхтоўкі і правядзеньня трэцяй бальшавіцкай вясны.

Час складаньня вытворча-фінансавых плянаў на 1932 год павінен быць цалкам скарыстаны для абгаварэньня і намячэньня пэўнай праграмы барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, паляпшэньне і палепшаньне прадукцыі і арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў. Трэба мабілізаваць увесь пэрсанал арганізацыйных і агратэхнічных мерапрыемстваў на падвышэньне ўраджайнасьці. Плян саўгасаў і калгасаў на 1932 год павінен ня толькі прадугледзіць пашырэньне пасеўнай плошчы, але і якасныя паказчыкі і памер шэрагу мерапрыемстваў, забясьпечваючых сапраўдны ўздым ураджаю і паляпшэньне таварнай прадукцыі.

Недастаткова вызначыць і апрацаваць вялікую плошчу. Трэба, каб гэтая плошча дала высокі ўраджай.

Адно з мерапрыемстваў па падвышэньню ўраджайнасьці ў сельскай гаспадарцы БССР—зьяўляецца ўгнаеньне глебы, а з шэрагу мерапрыемстваў па ўгнаеньню—лубінізацыя.

Лубін для сярэдняй і паўднёвай часткі БССР зьяўляецца адным з неабходных танных і цалкам адпавядаючых патрабаваньням глебы ўгнаеньнем. Каштоўнасьць лубіну як угнаеньня ня толькі ў тым, што заворваючы яго, мы даем глебе вельмі патрэбную для сельска-гаспадарчых расьлін спажыўную матэрыю (азот), але яшчэ і ў тым, што заворанае лубінавая маса робіць добры ўплыў на самую структуру глебы.

Лубін, як угнаеньне, павялічвае ўраджай збожжавых расьлін. Па даным Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі—ад 3 да 7 цэнтнэраў зярна на 1 гэктар, па Радамышлянскай станцыі на 4,1 цэнтн.; Горацкай—на 5,6 цэнтн.; Заходняй абласной—4,7 цэнтн.; Пскоўскай—на 5,8 цэнтн. і Турскай дасьледчай станцыі на 4,18 цэнтн. на 1 гектар.

Лубін, як зялёнае ўгнаеньне, уплывае ня толькі на павялічэньне ўраджайнасьці збожжавых расьлін, але і тэхнічных расьлін (лён, каноплі, бульбу), пры чым гэта эфэктыўнасьць зялёнага ўгнаеньня ад лубіну больш, чым на збожжавых расьлінах.

Лубінізацыя глебы павінна зьявіцца неадкладнай задачай усіх калгасных і зямельных арганізацый. Аднак, гэта задача заключаецца ня толькі ў тым, каб лубін проста скарыстоўваць на ўгнаеньне Задача лубінізацыі значна шырэй і, у першую чаргу, яна заключае ў сабе задачу вытвару і забясьпечаньсьці насеням матар'ялам лубіну самімі саўгасамі і калгасамі і насеннаводнымі гаспадаркамі. Гэта зьвязана з тым, што недахоп насеннага матар'ялу ня толькі не дае магчымасьці пашырэньня ўжываньня лубіну на ўгнаеньне, але і скарачае пасеўныя плошчы гэтай расьліны.

Трэба безадкладна кожнаму саўгасу і калгасу рашуча ўзяцца за лубінізацыю ўнутраных рэсурсаў лубіну. Трэба зараз-жа абмалаціць і здаць дзяржаве намечаную плянам колькасьць насеньня, а таксама вызначыць патрэбную колькасьць лубіну для пасеву ў сваім калгасе.

Баявы загад партыі і ўраду аб скарыстаньні ў першую чаргу ўсіх насенных рэсурсаў лубіну для насенных мэт павінен быць цалкам выканан.

Нарада пры Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі ўстанавіла наступны пералік агратэхнічных мерапрыемстваў па вырашчваньню лубіна на насеньне.

1) Высеў насеннага лубіну робіцца па зяблевай успашцы з веснавой перапашкай. На лёгкіх незасьмечаных пустазельлем глебах, можна дапусьціць узамен веснавой перапашкі, апрацоўку глебы культыватарам.

2) З мэтай павялічэньня ўраджаю насеннага лубіну, а таксама скарачэньня вэгетацыйнага пэрыяду (пэрыяд веснавога росту расьлін): — пад паасобныя плошчы ўжываць штучныя ўгнаеньні. Фасфарыту 135 *кг* ($P_2O_5$) на гэктар і калійнай солі, сільвініту 90 *кг* ($K_2O$) на гэктар з магчымай заменай калійных угнаеньняў (пры іх недахопе) попелам у адпаведнай колькасьці. Пры чым калі з калійных штучных угнаеньняў выкарыстоўваецца сільвініт і апошні мае паніжаны процант калія, дык гэткі сільвініт унасіць у глебу загадзя да засеву.

3) Ужываць абавязкова заражэньне глебы клубянькавымі бактэрыямі, калі пасеў лубіну утвараецца ўпяршыню на вучастку.

4) Засеў утвараць аднача́сова з засевам раньніх яравых (ячмень, авёс), г. зн. арыентыровачна ў канцы красавіка (для паўднёвай часткі БССР) і ў першай палове мая (для астатніх раёнаў).

5) Высеў рабіць суцэльны радковай сеялкай, альбо (што больш каштоўна) шырокарадны ў 25 сант. паміж міжрадзьдзямі. Высяваць на 1 гэктар 180 кілёграм сіняга лубіну з нармальнай усходжасьцю насеньня.

6) Устаноўку сеялкі рабіць з такім разьлікам, каб насеньне не высявалася і не запахвалася глыбей 0,5 вяршка (для зьвязаных глеб) і вяршка (для лёгкіх глеб).

7) Прыборку ўраджаю рабіць жаткай альбо снопавязалкай пры масавым пабурэньні бобікаў (да 70 проц.), пры чым уборку праводзіць з раніцы і ўвечары, а не ў самы сонцапёк—чым папераджаюцца страты пры растрэскваньні бобікаў і асыпаньні зерня.

8) Прасохшыя бобікі скошанага лубіну складваць у копы, або зараз-жа падвозіць да малатарні з брэзэнтавымі падсьцілкамі.

9) Калі абмалот адкладаецца на зімовы альбо вясеньні пэрыяд, дык ураджай лубіну складаецца ў скірды з абавязковай перакладкай і ўкрыцьцем зьверху і з бакоў саломай.

10) Абмалочанае насеньне з восені, неабходна да засыпкі для хаваньня на доўгі час, папярэдне прасушыць. Хаваць насеньне ў памяшканьні з добрым праветрываньнем. Слой насеньня ў засеку не павінен быць больш 1/2 мэтра (у залежнасьці ад вільготнасьці насеньня) і насеньне трэба час ад часу пералапачваць (у залежнасьці ад стана насеньня).

Вось той мінімальны пералік агратэхнічных мерапрыемстваў, які павінен быць ужыты ў саўгасе ці калгасе пры вырашчваньні насеннага лубіну.

Агранам **Бялоў**.

# САБРАЦЬ 30.000 ТОН ПОПЕЛУ

Згодна пастановы ЦК КП(б)Б аб правядзеньні веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі ў 1932 годзе, павінна быць сабрана заводамі, фабрыкамі, саўгасамі і калгасамі, а таксама арганізацыямі (яч. Асоавіяхім, камсамол, атрадамі піанэраў) 30.000 тон попелу, які павінен быць скарыстаны, як калійнае ўгнаеньне для падвышэньня ўраджайнасьці сацыялістычных палёў. ЦК КП(б)Б і СНК БССР сваёй пастановай абавязалі ўсе саўгасы і калгасы павысіць ураджайнасьць у гэтым годзе па культурам на наступны процант.

1. Збожжавых культур на 12 проц.

2. Траў і тэхнічных культур (лён і канапля) 15 проц.

3. Бульбы на 20 проц.

Значную ролю ў справе падвышэньня ўраджайнасьці можа адыграць попел пры яго правільным унясеньні. Каб выканаць гэтую лічбу, патрэбна зараз-жа кожнай яч. камсамолу, Асоавіяхіму і піанэратраду арганізаваць ударныя брыгады, вылучыць адказных асоб для збору і правільнага захаваньня попелу.

Кожная расьліна, якая расьце, жывіцца спажыўнымі матэрыямі, што маюцца ў паветры і ў глебе. З паветра кожная расьліна бярэ спажыўныя матэрыі лісьцямі.

У паветры спажыўных матэрый хапае, маецца ў дастатковай колькасьці, таму аб іх нікому клапаціцца не патрэбна. З глебы расьліна бярэ спажыўныя матэрыі карэньнямі. Самыя галоўныя спажыўныя матэрыі, без якіх расьліна ня можа жыць, наступныя: азот, фосфар, калі, кальцы, магні, серка і жалеза. Кальцыя, магнія, серкі і жалеза ў глебе маецца ў дастатковай колькасьці, таму аб іх клапаціцца ня прыходзіцца. Азоту, калія і фосфара ў глебе заўсёды маецца ў недастатковай колькасьці, і іх патрэбна ўносіць у глебу, інакш расьліна ня будзе даваць належнага ўраджаю. Недахоп гэтых матэрый тлумачыцца тым, што расьліны іх бяруць з глебы ў вялікай колькасьці.

Попел па свайму складу мае ў вялікай колькасьці калія, а таксама часткова і фосфару, таму ўнясеньнем попелу ў глебу, пакрываецца недахоп калія. Кораньплоды, бульба, морква, буракі, канюшына, віка, гарох шмат ужываюць калія; таму ўнясеньне пад гэтыя культуры попелу дае добры вынік.

Таксама попел добра дзейнічае на сенажацях. Пры яго ўнясеньні атрымоўваецца добрай якасьці трава на сенажацях. Таксама добра ўносіць попел пад лён. Ад унясеньня попелу пад лён атрымоўваецца лепшае валакно—мацнейшае і даўжэйшае, а таксама і болей насеньня, у параўнаньні з тымі ўраджаямі лёну, пад якімі глеба ня ўгнойвалася попелам. Добрыя дае вынікі попел і пры ўнясеньні яго пад збожжавыя расьліны.

Але попел не на ўсіх глебах можа ўжывацца для ўгнаеньня. Патрэбна ўносіць попел на такія глебы, якія бедны каліем. Да такіх глебаў адносяцца пясчаныя, супясчаныя і тарфяныя глебы.

Вялікую ролю адыгрывае попел у справе падвышэньня ўраджайнасьці пры правільным і своечасовым унясеньні яго ў глебу.

Попел патрэбна ўносіць у глебу за два тыдні да пасеву. Пад бульбу попел магчыма ўносіць у час яе пасадкі, для чаго попел насыпаецца ў кожную баразну альбо пад кожную бульбіну. Пры такім унясеньні яго трэба зьмешваць з глебаю з разрахунку на 1 частку попелу $^3/_4$ часткі глебы. На сенажаці попел уносіць трэба такім чынам: перад унясеньнем попелу сенажаць барануецца, а потым раскідваецца попел і зноў забараноўваецца.

Уносіцца попел у глебу ў ціхае надвор'е і раскідаецца роўнамерна па полі і зараз-жа забараноўваецца жалезнай бараной альбо заворваецца плугам на 6—9 сантымэтраў. Ня варта ўносіць попел у часе дажджу, таму што ад яго (попелу) робіцца корка. На кожны гектар глебы пад збожжавыя расьліны, а таксама бульбу, моркву, буракі патрэбна ўносіць 4 цэнтн. попелу; на сенажаці можна ўносіць 8,5 *цнт* попелу. Колькасьць унясеньня попелу залежыць ад яго якасьці.

Самы лепшы попел ад грэчневай і жытняй саломы, якога можна ўносіць менш, таму што ён мае шмат калію. Больш трэба ўносіць попелу ад хваёвых расьлін — ён мае менш калію. Самы малы процант калію мае попел, атрыманы ад спальваньня каменнага вугалю і торфу. Таму яго лепш і ня зьбіраць. Мокрага попелу трэба ўносіць у два разы больш, таму што частка спажыўных матэрый вымываюцца вадою.

Добрая якасьць попелу залежыць і ад добрага захаваньня яго да ўнясеньня ў глебу. Кожная фабрыка, завод, калгас, саўгас, установа павінны памятаць, што попел, які ў часе збору і захаваньня будзе прамочан, губляе сваю вартасьць. Таму трэба кожнаму прадпрыемству, якое зьбірае попел, зрабіць скрынкі, паставіць іх у сухое месца, куды-б не пападала вада.

У нас ёсьць усе магчымасьці выканаць і перавыканаць намечаную лічбу па збору попелу.

К пачатку веснавой сяўбы павінна быць сабрана 30.000 тон попелу.

М. А.



Вытворнік дацкай пароды (саўгас „Банонь", Полацкі раён)

# Аўладаць тэхнікай аказаньня першай дапамогі

Суцэльная калектывізацыя, індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі, на базе машынізацыі і мэханізацыі цэлага шэрагу сельска-гаспадарчых вытворчых працэсаў, карэнным чынам зьмянілі вытворчую структуру вёскі.

Такія, напрыклад, працэсы—выбарка і мяцьцё ільну і інш., якія выконваліся ўручную, за апошнія 3—4 гады выконваюцца спэцыяльнымі сельска-гаспадарчымі машынамі. Навейшыя тыпы машын усё больш ускладняюцца шляхам аб'яднаньня розных вытворчых працэсаў, напрыклад, камбайн. Яскрава, што чым складаней машына, тым больш неабходна сьвядомасьці з боку калгасьніка, рабочага саўгасу, як карыстацца гэтымі машынамі, неабходна аўладаць тэхнікай. А гэтага мы часта ня маем,—часта калгасьнік, ня будучы дастаткова знаёмы з тэхнікай карыстаньня машынай, калечыцца.

Практычныя нагляданьні даказваюць рост няшчасных выпадкаў, рост калецтва, траўматызму ў сельскай гаспадарцы. Няшчасныя выпадкі здараюцца і пры доглядзе за жывёлай (баданьне рагатай жывёлай, укусы) і г. д. Трэба заўважыць, што ў некаторай долі машынны траўматызм залежыць ад недастатковай тэхнікі бясьпекі.

Аказаньне мэдычнай дапамогі пры няшчасных выпадках тым пасьпяховей і больш карысьней, чым хутчэй яна аказана сьвядомымі рукамі. Лепш за ўсё, калі гэта дапамога аказана ў мэдычнай ўстанове. Але-ж на сёнешні дзень большая частка калгасаў не забясьпечана пунктамі аховы здароўя; на раёне галоўная частка мэддапамогі аказваецца ў вучастковых больніцах і пунктах, якія ў значнай частцы не прыстасаваны да абслугоўваньня больш буйных калгасных цэнтраў; вядомая справа, што ў няшчасных выпадках прыходзіцца аказваць дапамогу самому сабе або таварыш таварышу.

Адзіночныя выпадкі даказваюць, што на аказаньне першай дапамогі ў сельскай гаспадарцы неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Неабходна, каб кожны калгасьнік быў добра знаёмы з аказаньнем першай дапамогі, быў знаёмы з тэхнікай накладаньня першай павязкі на сьвежыя раны Кожны калгас павінен мець аптэчку першай дапамогі з неабходнымі мэдыкамэнтамі і перавязачным матар'ялам.

Нажаль, тыя аптэчкі, якія мне прышлося бачыць у калгасах, маюць такія мэдыкамэнты, ужываньне якіх досыць небясьпечна для неспрактыкаваных (настойка опія і інш.), або ня маюць самага неабходнага. Вельмі часта гэтая аптэчка знаходзіцца пад ключом у старшыні або члена праўленьня, і калі здарыцца няшчасны выпадак, дык і карыстацца аптэчкай няма як.

Прыходзіцца часта сустракацца з выпадкамі зусім няўмелага ўжываньня гэтых мэдыкамэнтаў—напр., наліваюць іоду на раны так многа, што акрамя раны прыходзіцца лячыць і апёкі.

Надыходзячая вясна і лета ставіць перад калгасамі задачу аўладаць тэхнікай першай дапамогі. Неабходна ствараць гурткі, якія пры дапамозе раённых камітэтаў чырвоных крыжоў досыць падрыхтуюцца да гэтай справы. Неабходна ў некаторых раёнах арганізаваць такія курсы на 2—3 тыдні пры раённых больніцах. Неабходна райкалгассаюзам зьвярнуць на гэта ўвагу і адпусьціць неабходныя сродкі. Асабліва неабходна скарыстаць кадры калгасьніц, якія правялі ясельную кампанію ў мінулае лета; мы ў кожным раёне маем значныя лічбы гэтых ясельных работніц. Неабходна гэтыя кадры замацаваць; неабходна іх прапусьціць праз курсы першай дапамогі, і мы з іх будзем чэрпаць кадры для пунктаў аховы здароўя пры калгасах.

Неабходна калгасам забясьпечыцца аптэчкамі з разьліку маючыхся брыгад, каб кожная брыгада, выяжджаючы ў поле, мела неабходнае для накладаньня павязкі. Неабходныя мэдыкамэнты можна набыць праз райздраў з раённых аптэк.

Доктар **Эвціn**

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Віткоўскаму, К. Б.** (Горкі).
Артыкул ваш „Племянныя запісы—у саўгасы і калгасы" атрымалі, зьмяшчаем. Просьба даслаць у самым хуткім часе артыкул—практычныя ўказаньні аб племянных запісах. Акрамя гэтага просьба даслаць артыкул на тэму „Аб злучной кампаніі".

**Масутову, Л. П.** (Горкі).
Ваш артыкул аб загатоўцы лёну для маслазаводаў ня пойдзе, спазьніўся. Просьба дасылаць іншы матар'ял па жывёлагадоўлі, зьвязаны з падрыхтоўкай і правядзеньнем веснавой пасеўкампаніі.

**Кузьмятку, Гаворсу, Астроўскаму і Рудзенцу** (Мозыр).
Дасланы вамі допіс „Па-бальшавіцку ўмацуем калгас" перададзен для надрукаваньня ў газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Сьцяпанчыку** (Касьцюковічы).
Допіс „Культурнае будаўніцтва—на службу калгасам" ня будзе надрукаваны. Вы вельмі агульна апісалі адносна радыёфікацыі калгасаў вашага раёну. Дасылайце матар'ял аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, аб арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні калгасаў, аб укамплектаваньні МТФ і СТКФ і вырошчваньні маладняка. У кожным допісу давайце канкрэтныя факты, прыклады. Кожны допіс пачынайце з канкрэтных фактаў, бяз лішніх агульных разважаньняў.

**Модліну, Г.** (Магілеў).
Допіс „Множыць пачынаньні" ня пойдзе, вельмі агульна напісан. У гэтым допісу вы ня далі ніводнага факту. Вы не паказалі, чаго-ж усё-такі дабілася партыйная ячэйка ў арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні калгасу. Напішаце пра Чырвонапольскую ячэйку больш падрабязна і канкрэтна прывядзеце прыклады ў чым выявіліся дасягненьні ячэйкі ў галіне замацаваньня калгасаў.

**Савіцкай Х.** (Рагачоў).
Допіс ваш пра калгас імя Сьвярдлова зьмесьцім у бліжэйшых нумарох часопісі. Аб збожжазагатоўках па раёну ня пойдзе, устарэлі пададзеныя вамі факты. Пішаце, як ідзе падрыхтоўка да веснавой сяўбы.
Допіс пра калгас „Чырвоны астраў" перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Шымакоўскаму, В.** (Бягомль).
Дасланы вамі допіс „Зрыўшчыкаў сацбудаўніцтва да суровай адказнасьці" перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Бардзяйлу, М.** (Меншчына).
Нарысы „Хто наступны" і „Нашы і чужыя" ня пойдуць. Вельмі слаба апісаны.

**Адказныя рэдактары:** С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 198, 1900 экз. Упаўнаважаны Галоўлітбелу № А—2.




| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | —24 нумары | | 3 р. |
| „ 6 мес. | 12 | „ | 1 р. 50 к. |
| „ 3 мес. | 6 | „ | — 75 к. |
| „ 1 мес. | 2 | „ | — 25 к. |

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ**

Адрас рэдакцыі часопісу: